

№ 3 (164)

Студзень 2007 года

# Краязнаўчая газета

Выдаецца з красавіка 2003 года




Фота Міколы ПІВАВАРА

## У нумары:



## Падарунак Слоніму
### ад польскага мастака С. Грудкоўскага

***Дзеля выканання Плана дзейнасці МЗС і замежных устаноў па вяртанні ў Рэспубліку Беларусь гістарычнай і культурнай спадчыны, якая з-за розных абставін апынулася за межамі Беларусі, Пасольствам Рэспублікі Беларусь у Польшчы была праведзена адпаведная праца. А ў лістападзе 2006 года ад выхадца з Беларусі, вядомага польскага мастака Сергіюша Грудкоўскага была атрымана калекцыя акварэляў для перадачы Слонімскаму краязнаўчаму музею імя І. Стаброўскага.***

Пасольствам праводзіцца пастаянная праца па пошуку і перадачы ў Рэспубліку Беларусь культурна-гістарычных каштоўнасцяў, якія знаходзяцца ў Польшчы або створаны выхадцамі з Беларусі. Так, у верасні 2006 года былі перададзены звыш 300 асобнікаў гістарычнай, навукова-папулярнай літаратуры і іншых матэрыялаў з асабістага архіва беларуса па паходжанні, вядомага вучонага і даследчыка Базыля Белаказовіча Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі і Беларускаму дзяржаўнаму архіву-музею літаратуры і мастацтва (*«КГ» адначала гэты факт на сваіх старонках.* – Рэд.).

21 снежня 2006 года ў Слоніме адбылася ўрачыстая цырымонія перадачы музею 30 акварэляў, напісаных мастаком у розныя гады творчай дзейнасці і прысвечаных краявідам і памятным мясцінам Слонімшчыны, а таксама Мерачоўшчыны, дзе нарадзіўся Т. Касцюшка. Ва ўрачыстасці прынялі ўдзел намеснік старшыні Слонімскага райвыканкама Анатоль Цярэнін, саветнік Пасольства Беларусі ў Польшчы Тадэвуш Стружэцкі, прадстаўнікі райвыканкама, кіраўнікі раённых арганізацый культуры, грамадскасці, рэгіянальных сродкаў масавай інфармацыі. Як напісаў у сваім лісце С. Грудкоўскі, які не змог прыехаць у Слонім па стане здароўя, перадачу мастацкіх твораў гістарычнай Радзіме ён лічыць сваім грамадзянскім абавязкам і тым самым пацвярджае сваю любоў і павагу да роднай Беларусі. У выступленнях падчас урачыстай цырымоніі перадачы твораў С. Грудкоўскага неаднаразова падкрэслівалася важнасць дадзенай акцыі – атрымання ўнікальнай каштоўнасці для горада Слоніма і краязнаўчага музея.

Падчас урачыстасцяў у зале, дзе надалей будуць захоўвацца мастацкія творы Грудкоўскага, была адкрыта часовая выстава яго акварэляў, якая выклікала вялікую зацікаўленасць у прысутных.

У знак падзякі С. Грудкоўскаму ад Слонімскага райвыканкама былі перададзены падзячны ліст і падарункі.

У наступным годзе плануецца таксама перадача літаратурных твораў і навуковых прац іншых вядомых у Польшчы паэтаў, пісьменнікаў і навукоўцаў, выхадцаў з Беларусі.

***Тадэвуш СТРУЖЭЦКІ,***
*саветнік Пасольства Беларусі ў Польшчы*

**Факты з біяграфіі мастака.**

*Сергіюш Грудкоўскі нарадзіўся ў 1916 годзе ў вёсцы Баровічы, дзяцінства гады правёў на Слонімшчыне і Навагрудчыне, закончыў гуманітарны ліцэй у Баранавічах. З самага пачатку і амаль да апошніх дзён змагаўся на франтах Другой сусветнай вайны, адзначаны многімі дзяржаўнымі ўзнагародамі Польшчы. Падчас завяршальнага перыяду вайны ў баях на мяжы Чэхаславакіі і Германіі, камандуючы батарэяй, фактычна ўратаваў штаб 1-га Беларускага фронта маршала І. Конева, які аказаўся ў цяжкай сітуацыі, за што быў узнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга і іншымі ўзнагародамі СССР.*

*У 1945 годзе паступіў на вучобу ў Акадэмію мастацтваў у Варшаве, якую паспяхова скончыў. Яго настаўнікамі былі знакамітыя польскія прафесары Ян Цыбіс і Януш Падоцкі. Пазней ён атрымаў вышэйшую сельскагаспадарчую адукацыю, 27 гадоў адпрацаваў у сельскай гаспадарцы на розных кіраўнічых пасадах, але на ўсё жыццё захаваў любоў да выяўленчага мастацтва.*



*С. Грудкоўскі стварыў каля 500 мастацкіх твораў, прымаў удзел у 22 персанальных і звыш 30 сумесных мастацкіх выстаўках у розных гарадах Польшчы, у Будапешце, Вене. Яго мастацкія творы знаходзяцца ў фондах розных музеяў Польшчы, некаторых краін Еўропы. Як напісалі аўтары тэксту да каталога адной з выстаў Грудкоўскага польскія мастацтвазнаўцы Р. Холева і С. Пекарскі, «Сергіюш Грудкоўскі з'яўляецца выключнай асобай, як і яго выяўленчае мастацтва. Можна падзівіцца ім як не толькі знакамітым мастаком, але і чалавекам вялікага сэрца, які аддае ўсяго сябе кожнай справе. Мастацтва і жыццё на прыкладзе С. Грудкоўскага ствараюць адзінае цэлае. Рэдка так здараецца, калі ў адной асобе спалучаюцца такія розныя біяграфіі салдата, земляроба і мастака». Аб таленавітасці і незвычайнай працаздольнасці мастака сведчыць і такі факт: у 2005–2006 гадах, ужо ў 90-гадовым узросце, за некалькі месяцаў напісаў звыш 30 мастацкіх твораў, прысвечаных Мазоўшу. Яны былі выстаўлены на персанальнай выставе ў Нацыянальным музеі ў Варшаве ў маі 2006 года.*

## Нацыянальная Камісія Рэспублікі Беларусь па справах ЮНЕСКО
### (Перспектывы супрацоўніцтва на 2008–2009 гады)

14 снежня 2006 года чарговае пасяджэнне Нацыянальнай Камісіі Рэспублікі Беларусь па справах ЮНЕСКО прайшло пад старшынствам У.Р. Шчаснага. Былі разгледжаны пытанні дзейнасці Камісіі і выкананне асноўных праектаў у 2006 годзе, абмеркаваны планы работы Камісіі ў 2007 годзе (пра іх «КГ» падрабязна інфармавала чытачоў у студзені 2006 года), разгледжаны і зацверджаны накірункі супрацоўніцтва з ЮНЕСКО ў 2008–2009 гадах на аснове ініцыятыўных прапаноў членаў Камісіі.

Ухваліўшы справаздачу старшыні У. Шчаснага і сакратара Камісіі А. Красоўскай, асноўную ўвагу члены Камісіі надалі разгляду планаў супрацоўніцтва на 2008–2009 гады ў галіне адукацыі, навукі, культуры і інфармацыі.

У галіне адукацыі падтрыманы прапановы Брэсцкага універсітэта імя А.С. Пушкіна па забеспячэнні доступу да інтэрнэта людзей з абмежаваным зрокам, праект Акадэміі паслядыпломнай адукацыі «Сямейная тэрапія ў Рэспубліцы Беларусь», праект «Прававое выхаванне ў школе» Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь і іншыя.

У галіне навукі прынята рашэнне падтрымаць прапанову Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі аб правядзенні шэрагу дзяржаўных і міждзяржаўных мерапрыемстваў, прысвечаных 600-годдзю Нацыянальнага парка «Белавежская пушча» ў 2009 годзе.

У галіне культуры ўхвалены праекты Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі ў межах праграмы «Памяць Беларусі», накіраваныя на бібліяграфічную рэканструкцыю гістарычных кніжных збораў бібліятэк Радзівілаў і Храптовічаў, стварэнне электроннай бібліятэкі поўнатэкставых копій найбольш каштоўных архіўных дакументаў і выданняў.

Заснавальнікаў першага Міжнароднага фестывалю традыцыйнай культуры «Берагіня» (Мінкультуры, Мінадукацыі, Гомельскі аблвыканкам, Акцябрскі райвыканкам і Грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры») таксама падтрымала Нацыянальная камісія па арганізацыі і правядзенні фестывалю ў 2008–2009 гадах.

Літаратурна-мемарыяльныя музеі Я. Купалы і Я. Коласа атрымаюць магчымасць стварыць электронную версію каталогаў да 125-годдзя народных паэтаў Беларусі ў рамках праграмы «Спадчына Я. Купалы і Я. Коласа».

Нацыянальнай Камісіі рэкамендавана таксама падтрымаць праекты Цэнтра народных рамёстваў і мастацтва «Задзвінне» з Віцебска, Дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры і мастацтваў.

У галіне інфармацыі пры дапамозе Нацыянальнай камісіі павінен адбыцца семінар пад назваю «Інтэрнэт для журналістаў», выпуск электроннага зборніка «Помнікі гісторыі права Беларусі».

**Наш кар.**

*Нічога так не страшэннае для кожнай краіны, як абыякавасць народа*

*В. Распуцін*

## Нашы віншаванні

*Віншуем сяброў Беларускага фонду культуры і «Краязнаўчай газеты» з прысуджэннем спецыяльных прэмій Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва 2006 года:*

*– народны АНСАМБЛЬ «ЯЛІНКА» гарадскога Дома культуры «Колас» г. Ельска Гомельскай вобласці – за вялікую работу па захаванні народных мастацкіх традыцый і канцэртным абслугоўванні сельскага насельніцтва;*

*– калектыў КРЫЧАЎСКАЙ ЦЭНТРАЛЬНАЙ РАЁННАЙ БІБЛІЯТЭКІ – за высокія дасягненні ў развіцці бібліятэчнай справы, стварэнне інфармацыйна-ідэалагічнага цэнтра па абслугоўванню насельніцтва;*

*– заслужаны аматарскі калектыў Рэспублікі Беларусь «КРУПІЦКІЯ МУЗЫКІ» Крупіцкага цэнтра культуры – за вялікі ўклад у прапаганду народнай творчасці Беларусі за мяжой, актыўную канцэртна-гастрольную дзейнасць;*

*– заслужаны аматарскі калектыў Рэспублікі Беларусь АНСАМБЛЬ ТАНЦА «ЗУБРАНЯ» (Палац культуры МАЗ) – за плённую работу па эстэтычным выхаванні дзяцей і моладзі, актыўны ўдзел у рэспубліканскіх культурных акцыях.*



## На зімовай пашы...

Спяшацца няма куды. Нападзе цэлы дзень, хоць і зімовы, кароткі, але бесклапотны ды вольны. А дарогі на невысокай дамбе, якая цягнецца на ўскрайку Століна ўздоўж агародаў, хопіць на добрую гадзіну павольнай хады...

Раптам на дамбу выскачыў сабака. Ад неспадзяванай сустрэчы спыніўся – пачаў пільна ўглядацца ў незнаёмца, чакаць гаспадара. З мужчынам у дзіўных акулярах, сівым шчаціннем на твары, амаль бяззубай, але лагоднай усмешкай, паразмаўляць давялося нядоўга.

– Кароў трэба сустракаць, – сказаў ён амаль нахаду.

Іншым разам я б і здзівіўся. Але не гэтай цёплай зімой, калі на лузе поймы Гарыні багата зялёнай травы. Як і ўлетку, людзі выганяюць на пашу кароў, коней. З аднаго боку можа і добра... для жывёлы: усё ж трава – не сена, а з другога... Хіба ж гэта зіма?..

*Ігар ГРЭЧКА,*
*фота аўтара*



## Сучасныя беларускія краязнаўцы

*Матэрыялы да слоўніка*

**Клімко** Сяргей Іванавіч (н. 1932, в. Явар Дзятлаўскага р-на Гродзенскай вобл.). Скончыў геафак БДУ. Працаваў настаўнікам геаграфіі ў Руда-Яворскай школе Дзятлаўскага раёна, потым яе дырэктарам. Арганізаваў у школе музей баявой славы. Працаваў дырэктарам Турэцкай школы. Актыўна займаецца краязнаўствам.

**Ціхамірава** Ніна Канстанцінаўна (н. 19.11.1942, в. Туманава Арзамаскага р-на Ніжагародскай вобл., Расія). Скончыла Кіраўскі пединстытут (1967), Смаленскі дзяржуніверсітэт (1981), Акадэмію паслядыпломнай адукацыі (Асновы праваслаўнай культуры Беларусі, 2003), Духоўнае вучылішча Віцебскай епархіі (2000). Працавала настаўнікам матэматыкі і пачатковых класаў 33-й пач. школы г. Варкуты (1961–1962), рускай мовы і літаратуры, этыкі, арганізатарам пазашкольнай працы Лёзненскай СШ № 1 (1972–2002), кіраўніком школьнага музея (1985–2006). Краязнаўствам пачала займацца ў 1975 г. у СШ № 1 г.п. Лёзна. Настаўнікамі ў краязнаўстве лічыць С. Мітраховіча, Б. Зараха, А. Куржалава, А. Падліпскага. Займаецца ў асноўным вывучэннем гісторыі Лёзна і Лёзненшчыны. Удзельнік рэспубліканскіх турысцка-краязнаўчых канферэнцый з 1984 г. Аўтар шматлікіх артыкулаў у навуковым і перыядычным друку.


*Н. Ціхамірава*



## Гэта трэба ведаць

За 2006 год у Цэнтральным раёне горада Мінска адбылося 54 пажары, страты ад якіх склалі 100 240 000 рублёў. У жылым сектары ЖРЭА раёна ўлічана 25 пажараў, што складае 46,3 %.

Загінула 7 чалавек, усе мужчыны ва ўзросце 45–60 гадоў, у выніку неасцярожнага абыходжання з агнём падчас курэння ў ложку ў нецвярозым стане.

Асноўнымі прычынамі ўзнікнення большасці пажараў з'явілася пагарджэнне элементарных патрабаванняў пажарнай бяспекі, адсутнасць сістэмы кантролю супрацьпажарнага рэжыму. Выратавана людзей падчас ліквідацыі НС 38 чалавек.

## Рэкамендацыі

### «круглага стала» «Краязнаўства Берасцейшчыны: стан і перспектывы развіцця» (Брэст, 12 снежня 2006 г.)

Вучоныя, работнікі ўстаноў культуры, настаўнікі, журналісты, мясцовыя краязнаўцы, якія прынялі актыўны ўдзел у працы «круглага стала», што быў арганізаваны Упраўленнем культуры Брэсцкага аблвыканкама, Установай культуры «Абласная бібліятэка імя М. Горкага» (г. Брэст), Установай адукацыі «Брэсцкі дзяржаўны універсітэт імя А.С. Пушкіна», Рэдакцыйна-выдавецкай установай «Літаратура і мастацтва», з удзелам «Краязнаўчай газеты», у ходзе канструктыўнай, зацікаўленай дыскусіі адзначылі як пазітыўныя моманты, так і праблемы, што перашкаджаюць выніковасці краязнаўчай працы на сучасным этапе. У ходзе абмеркавання шырокага кола пытанняў краязнаўчай тэматыкі ўдзельнікі «круглага стала» выказалі наступныя рэкамендацыі.

**Органам мясцовай улады:**

• праводзіць пільны кантроль за дакладным выкананнем заканадаўства аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны з боку суб'ектаў гаспадарання ўсіх форм уласнасці, фізічных асоб;

• аказваць усямерную падтрымку народным майстрам і ўмельцам, спрыяць захаванню традыцыйных рамёстваў і промыслаў. Ствараць належныя матэрыяльныя ўмовы для майстроў у справе навучання моладзі свайму рамяству;

• звяртаць увагу на належны стан матэрыяльнай базы ўстаноў культуры і адукацыі як асяродкаў нацыянальнай культуры;

• спрыяць прынятаю на мясцовым узроўні адпаведных дакументаў, што рэгламентуюць перадачу бібліятэкам мясцовага кантрольнага экземпляра друкаванай прадукцыі;

• разгледзець пытанне выдання асобнага падпіснога гісторыка-краязнаўчага часопіса (альманаха) Брэсцкай вобласці ў сувязі з велізарным аб'ёмам інфармацыі, актыўнымі карыстальнікамі і стваральнікамі якой з'яўляюцца зараз вучоныя, настаўнікі, бібліятэкары, студэнты, школьнікі і краязнаўцы-аматары, а таксама шматпланавай накіраванасцю краязнаўства і краязнаўчага руху.

**Рэспубліканскім навуковым інстытутам і іншым установам:**

• пры падрыхтоўцы фундаментальных выданняў краязнаўчага характару («Гарады і вёскі Брэсцкай вобласці» і інш.) улічваць вынікі шматгадовых даследаванняў рэгіянальных навукова-даследчыцкіх цэнтраў, краязнаўцаў-аматараў, актыўна іх прыцягваць да супрацоўніцтва.

**Навуковым установам, установам адукацыі і культуры (вышэйшым навучальным установам, архівам, музеям, бібліятэкам):**

• актывізаваць выяўленне, апрацоўку і ўвядзенне ў навуковы зварот дакументаў з фондаў дзяржаўных, гарадскіх і прыватных архіваў і музеяў, у якіх закранаюцца розныя аспекты гістарычнага краязнаўства. Збор і захаванне іх сканцэнтраваць у бібліятэках. Асаблівую ўвагу звярнуць на ажыццяўленне запісаў вуснай гісторыі, якая дазваляе данесці наступным пакаленням праўду аб падзеях мінулага, асабістыя перажыванні, ацэнкі людзей старэйшага пакалення, якія на працягу многіх дзесяцігоддзяў уносілі ўклад у развіццё розных галін народнай гаспадаркі Брэсцкай вобласці і ўсёй Беларусі;

• ва ўмовах глабалізацыі, імклівага паскарэння працэсаў урбанізацыі і няўхільнага скарачэння колькасці сельскага насельніцтва даволі актуальнай з'яўляецца праблема захавання і навуковага даследавання мясцовых дыялектаў, якія з'яўляюцца на працягу многіх стагоддзяў невычэрпнай крыніцай для беларускай мовы. Менавіта таму на раённым і абласным узроўнях варта неадкладна разгарнуць запіс мясцовай лексікі для перспектыўнага выдання комплекснай серыі «Жывая мова родных мясцін». Дэталёвага вывучэння патрабуюць любыя артэфакты матэрыяльнай і духоўнай культуры знікаючых вёсак;

• актыўна выкарыстоўваць магчымасці турысцка краязнаўства па літаратурных, гісторыка-культурных мясцінах для ідэйнага, патрыятычнага выхавання студэнцкай і навучэнцкай моладзі, школьнікаў для абуджэння іх цікаўнасці да айчынных помнікаў гісторыі і культуры;

• арганізатарам, захавальнікам школьных музеяў, краязнаўцам-аматарам, педагагічным работнікам, бібліятэкарам актыўна выкарыстоўваць у практычнай дзейнасці матэрыялы «Краязнаўчай газеты», прэзентаваць на яе старонках свае набыткі і вопыт.

**Друкаваным і электронным СМІ надаваць больш увагі асвятленню і прапагандзе аб'ектыўных ведаў пра родны край.**

*Кароткі слоўнік*
## краязнаўча-прававой тэрміналогіі
*беларускай старажытнасці*



**(Пачатак у № 3 за 2005 г.)**

**ТАЛАКА** – старажытны народны звычай гуртавой дапамогі ў складаных гаспадарчых справах (будаўніцтва дома, сенакос, жніво і інш.) у спрыяльны ці, наадварот, ненадзейны час, калі нешта трэба было зрабіць тэрмінова. Была пашырана ў ВКЛ, Польшчы і Расіі. Прадугледжвала частаванне гаспадаром удзельнікаў. Паны, бывала, выкарыстоўвалі гэты даўні народны звычай прымусова, у сваіх карыслівых мэтах, спасылаючыся на розныя новыя законы («Устава на валокі» 1557 г.). Асадныя сяляне маглі часткова адкупіцца ад талакі за пэўны чынш, цяглым сялянам гэта было забаронена, за нявыхад на талаку па няўважлівай прычыне іх штрафавалі.

**ТАЛЕР** (ад нямецка-чэшска-польскага) – *а)* сярэбраная манета (маса 28–32 г). У дакументах на Беларусі ўпершыню ўпамінаецца ў 1529 г. (Слонім). У ВКЛ былі ва ўжытку польскія, германскія, нідэрландскія і інш. талеры; *б)* лікава-грашовае паняцце для вызначэння рэальных сум у меншых за талер наміналах; *в)* вагавая адзінка для вырабаў з серабра, якая адпавядала масе талера.

**ТАТАРЫ.** Гэты этнонім стаў вядомы з VI ст. на паўднёвым усходзе ад Байкала. У XIII ст. вядомасць пашырылася далей на Захад, у тым ліку і ў Еўропе, у сувязі з мангола-татарскім нашэсцем. На шчасце, яно ў асноўным абмінула сённяшнія беларускія землі, што дало магчымасць прыкладна ў 1246 г. зладзіць сваю дзяржаву (ВКЛ) з цэнтрам у Навагародку. Першыя татары з Залатой Арды і Крыма стала аселі ў ВКЛ у канцы XIV – пачатку XV стст. па запрашэнні яго ўлад і выконвалі ваенную службу, з цягам часу узвышаючыся па іерархічнай лесвіцы. У XVI ст. сярод іх вызначыўся падзел: татары-шляхта, татары-казакі, а таксама татары-ваеннапалонныя, якія з канца XVIII ст. у асноўным перасяліліся ў гарады і мястэчкі, дзе ўтварылі Татарскія вуліцы, Татарскія канцы (у Мінску – Татарскую слабаду). Яны займаліся агародніцтвам, рамізніцтвам, дубленнем скур, вырабам саф'яну, у вёсках – земляробствам і жывёлагадоўляй. Да пачатку XX ст. іхнія нашчадкі зберагалі дзедаўскія этнічныя асаблівасці, рэлігію (іслам суніцкага кірунку), для сувязі паміж сабой і мясцовымі насельнікамі з сярэдзіны XVI ст. актыўна ўжывалі беларускую мову. З таго стагоддзя своеасаблівай з'явай культуры татараў на Беларусі сталі кітабы – рэлігійныя кнігі на беларускай мове, напісаныя арабскай графікай. Некаторыя кітабы шырока адлюстроўваюць дыялектныя асаблівасці яе. Праваое становішча татар у ВКЛ рэгламентавалася ягонымі Статутамі.

# Малая краязнаўчая энцыклапедыя

***(Пачатак у № 1 за 2003 г.)***

ВЯЛІКАЕ КНЯСТВА ЛІТОЎСКАЕ (з энцыклапедычнага даведніка «Беларусь», Мн., «Беларуская энцыклапедыя», 1995: ВКЛ, Беларуска-Літоўская дзяржава (Гаспадарства), афіцыйная назва з XIV ст. – Вялікае княства Літоўскае, Рускае, Жамойцкае) – дзяржава на землях Беларусі і летапіснай Літвы, што была паміж сённяшнімі Мінскам, Навагрудкам, Слонімам і Маладзечна, (1230-я – канец XVIII стст.), Украіны (XIV ст. – 1569?), часткі Расіі (да 1530-х гг.); з 1569-га ў складзе федэратыўнай Рэчы Паспалітай (добраахвотны саюз вышэйназваных краін з Польшчай). Першая сталіца ВКЛ – Новагародак (Навагрудак), з 1323-га – Вільня.

**P.S.** *Шаноўны чытач «КГ», мы пра ўтварэнне, дзейнасць ВКЛ з пачатку заснавання нашага выдання (2003 г.) пісалі, як некалі казалася, шматкроць. Многае цяпер не толькі ў «КГ», але і ў іншых выданнях дапаўняецца; тое-сёе спрабуюць падаць па-новаму, каб недацаніць, прынізіць ролю беларускасці ў ВКЛ. У наступных нумарах мы прадоўжым гутарку пра ВКЛ, але, зразумела, у кароткім варыянце.*

Па дакументах: «Вялікае княжаства Літоўскае, Рускае, Жамойцкае»; «Беларуска-Літоўская дзяржава (гаспадарства)». У так званыя «сярэднія вякі» па летапісах паняцце «Літва» азначала землі паміж сённяшнімі Маладзечна, Мінскам, Навагрудкам і Слонімам, «Рускае» – найперш Полацкая зямля, «Жамойць» – абшары сённяшняй Літвы. Наконт утварэння гэтай дзяржавы ёсць самыя розныя звесткі. На аснове вывучэння тагачасных падзей, еўрапейскіх дакументаў даследчыкі XX стагоддзя (М. Ермаловіч, Г. Штыхаў, А. Грыцкевіч і інш.) прыйшлі да пераканання, што ВКЛ са сталіцай у сённяшнім Навагрудку было ўтворана прыкладна ў 1246 г. (магчыма, зарэгістравана ў еўрапейскай супольнасці не пазней 1248-га).

Утварыцца ВКЛ на беларускіх землях выпаў гістарычны шанец: перад гэтым мангола-татарскія орды спустошылі шматлікія сённяшнія расійскія, украінскія, польскія, венгерскія, нямецкія і іншыя землі паходам на Захад і вяртання з яго, але з-за лесу і балот, прайшоўшы акрайкамі сённяшніх Брэсцкіх і Гомельскіх абласцей, абышлі наш зусім не страшны для іх край. Вось паблізу Налібацкай пушчы, дзе на той час гаспадарыў летапісны літоўскі князь Міндоўг (Мендог; 1195 г.н.), калі не стала вялікага князя навагародскага (магчыма, Ізяслава), у Навагародак быў запрошаны менавіта Міндоўг, якому Навагародак перад гэтым паставіў свае ўмовы. Са згоды Навагародка Міндоўг у 1253-м каранаваўся на караля, рашуча змагаўся супраць экспансіі з паўднёвых славянскіх зямель і крыжакоў – дарэчы, якія рабілі набегі і рабавалі беларускі народ ад імя «вышэйшай боскай веры».

Хто і калі быў вялікім князем ВКЛ, рэдакцыя «КГ» неаднойчы пісала, таму цяпер паўтарацца не будзем. Як і пра тое, што Вітаўт Вялікі (1350–1430) давёў ВКЛ да адной з самых вялікіх дзяржаў Еўропы («стацца пад рукой Вітаўта» прасіліся многія еўрапейскія краіны, якія ратаваліся ад насілля суседніх дзяржаў). Вітаўт Вялікі ў XV ст. стаўся асобай, якая вырашала многія пытанні не толькі ў ВКЛ, Каралеўстве Польскім, але і ва ўсёй Еўропе – ва ўзаемаадносінах як з «заходнікамі», так і з «усходнікамі». Кіруючыя колы тагачаснай Польшчы нясуць непасрэдную адказнасць, што яны карысліва не дапусцілі да Вітаўта асвечанай для яго ў Рыме кароны, паводле чаго Вітаўт станавіўся каралём ВКЛ, незалежнага і ад Польшчы, і ад Расіі, і ад усёй астатняй Еўропы. Вітаўт Вялікі з усёй сваёй магутнай моцай абеларусіў ВКЛ, яго гісторыю і культуру.

***(Працяг артыкула будзе)***



***ВКЛ у XVII ст. (карту склалі Л. Казлоў і Л. Міхайлоўская)***

## Абяцаны рай для турыстаў

Наўкола рэканструкцыі Аўгустоўскага канала шуму было багата. Грошай туды ўклалі яшчэ болей. Спадзяваліся зрабіць «жамчужынай» беларускага турызму. Але прайшоў час. Грошы патрацілі, рэканструкцыю скончылі. Але дзе «жамчужына»? Паспрабуем разабрацца, што сёння ўяўляе сабой распрапагандаваны водны рай для турыстаў.

Рэканструкцыя беларускай часткі Аўгустоўскага канала была скончана ў чэрвені мінулага года. Але ні афіцыйнага адкрыцця, ні святочных мерапрыемстваў з нагоды сканчэння работ не было. Будаўнікі з некалькіх дзесяткаў арганізацый Гродзенскай вобласці, якія працавалі на канале, усё ж зрабілі сваё свята з прычыны сканчэння работ. Каля 100 чалавек праплылі на параходзе ўверх па цячэнні ўзноўленай воднай магістралі – ад Нёмана да мяжы з Польшчай.

Абяцаны рай для турыстаў, здаецца, наступіць яшчэ не хутка. Няма ні гасцініц, ні рэстаранаў, ні адрэстаўраваных старых маёнткаў, якія былі закладзены ў праект рэканструкцыі. А канал на радасць рыбакам па ўсім цячэнні зарастае цінай і чаротам. Яшчэ ў маі Дзяржкантроль даручыў Гродзенскаму выканкаму «актывізаваць працу па прапагандзе турысцкіх магчымасцей канала». Але «прапаганда» і «рэклама» ў свеце бізнесу – зусім не адно і тое ж. Магчыма, таму ні турысты, ні інвестары на Аўгустоўскі канал не спяшаюцца.

**(Паводле бюлетэня ГА «Ахова птушак Бацькаўшчыны»)**

## Ліст у рэдакцыю

Добры дзень, паважаны Уладзімір Аляксандравіч! Віншую Вас, усіх супрацоўнікаў «Краязнаўчай газеты», якая стала мне роднай, з Нараджэннем Хрыстовым, Новым годам і Калядамі! Моцнага здароўя ўсім вам, дабрабыту ў сям'і і творчых поспехаў! Дасылаю вам невялічкі артыкул. Мо, ён спатрэбіцца ў вашай рубрыцы «І смех, і грэх»?

Неяк у кастрычніку мне пашанцавала сустрэцца і пагутарыць з вядомым літаратуразнаўцам, пісьменнікам Адамам Мальдзісам. Даведаўшыся, што я шмат гадоў працаваў геолагам-дарожнікам, паважаны спадар Адам расказаў мне анекдот, які ён у свой час пачуў ад пісьменніка У.С. Караткевіча. Недзе ў пачатку снежня я зноў сустрэў яго і спытаў, ці дазваляе ён, каб гэты пачуты ад У. Караткевіча анекдот я надрукаваў у газеце. Адзінае пытанне яго было: «У якой газеце?» Калі ж сказаў, што ў «Краязнаўчай», тут жа пачуў ухвальнае.

*Дык вось: як вядома, у старажытныя часы дарогі на Беларусі, як і ў суседніх краінах, былі, мякка кажучы, не ў лепшым стане. Па іх ездзілі не толькі на карэтах, фурманках. Корчмы, дзе падарожнік змог бы адпачыць, перакусіць, былі праз кожныя сем вёрст. Чаму праз сем, а не праз дзесяць–дваццаць вёрст? Прадпрымальнымі карчмарамі было вылічана, што калі падарожнік вып'е келіх гарэлкі ў адной карчме, дык да наступнай, праз сем вёрст, ён не паспее працверазіцца і захоча яшчэ выпіць. І вось неяк аднойчы мясцовы пан пытае ў простага чалавека:*

*– А скажы, Сымоне, колькі вёрст будзе... да неба?*

*Чалавек доўга думаў, ускінуўшы галаву ў неба (аж зляцела шапка), і, чухаючы патыліцу, сказаў:*

*– Больш чым сем вёрст.*

*– А чаму не меней?*

*– Таму што там не бачна карчмы, – адказаў Сымон.*

***Лявон ЦЕЛЕШ,***
***г. Дзяржынск***

*Наша гісторыя: ідэі, падзеі, асобы*

## «Бронюсь, куды ты ідзеш?»

***Ён быў вучоны-мовавед, гісторык, літаратуразнавец, грамадскі і дзяржаўны дзеяч, публіцыст, перакладчык. У гэтай справе ён, таленавіты, няўрымслівы, самаадданы патрыёт Беларусі, мог бы зрабіць значна больш, каб не цяжкія абставіны, што суправаджалі ўсё яго свядомае жыццё.***

Гутарка ідзе пра Браніслава Тарашкевіча, які нарадзіўся 20 студзеня 1892 года ў беднай сялянскай сям'і на зямлі, што сёння ў складзе Літвы, ужо з 4 класа мусіў падзарабляць на пракормак урокамі, але здолеў у 1911-м скончыць з медалём Віленскую гімназію, а ў 1916-м – паспяхова гісторыка-філалагічны факультэт Пецярбургскага універсітэта (сам тагачасны светач рускага мовазнаўства, акадэмік А. Шахматаў пакінуў яго пры кафедры рускай мовы для «приготовления к профессорскому званию»). Што ні кажы, будучыня сялянскаму хлопцу адкрывалася светлая. Ды ён змоладу глыбока ўсвядоміў і іншае, апроч свайго поспеху: яшчэ ў 1911 годзе ўступіць у Беларускую сацыялістычную грамаду, якая мела на мэце барацьбу з царызмам і арганізацыю беларускага нацыянальнага руху, а ў 1914-м, калі ішла Першая сусветная вайна, не па ўзросце стала зазначыць: «Цяпер ідзець вялікая барацьба народаў, а пасля наступіць вялікі пералом у жыцці. На гэта ўсе гатуюцца. Не можна ж і нам сядзець завязаўшы вочы...» І калі ён уведаў, што любімы ім амаль аднагодак Максім Багдановіч па стане здароўя не можа (сябры паэта не дапусцілі яго ў халодны Петраград) пачаць задуманую працу над граматыкай беларускай мовы, зноў жа, высакародна адкладае сваё ўбок і з энтузіязмам бярэцца за такую аб'ёмістую працу, што, можа, па сіле не столькі студэнту, колькі вопытнаму вучонаму-славісту. Ды, зрэшты, тады такі выпаў Беларусі час: у складаных умовах для яе найперш рабілі па-маладому маладыя!

***(Заканчэнне на стар. 4)***




# «Бронюсь, куды ты ідзеш?»

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 3)*

Год 1917, падзенне царызму. Б. Тарашкевіч з аднаўленай БСГ востра вылучаюць беларускае пытанне, у сакавіку, калі ў Расійскай імперыі забурліла рэвалюцыя, – патрабаванне змен. Найперш сваімі сіламі ў Мінску праводзяць з'езд беларускіх грамадска-палітычных арганізацый, дзе агучаць сцвярджэнне павагі да Беларусі хоць бы ў форме аўтаноміі. Яго, маладога навукоўца, абяруць у культурна-асветную камісію. Пасля з'езду, які шальмавалі шавіністы рознай масці і які ўсё ж адбыўся, прыняў важныя рашэнні, жыццёва важнае пытанне пра беларускую школу падштурхне яго да восені скончыць работу над «Беларускай граматыкай». Але сітуацыя ў Мінску складваецца нялепшая (антынацыянальная ўлада, нямецкая акупацыя), дык Б. Тарашкевіч у чэрвені 1918-га ажно праз Фінляндыю прабіраецца ў Вільню, каб там выдаць сваю працу. Дзеля гэтага робіць усе высілкі і былы рэдактар «Нашай Нівы» А. Уласаў. Пазней акадэмік С. Некрашэвіч высока ўхваліць навуковае значэнне «Беларускай граматыкі» як працы, што «заснавала цэлую эру ў гісторыі нашай граматыкі і правапісу». На той час гэта было зусім не перабольшванне.

У 1918–1920-х Б. Тарашкевіч, як не ўпрошваў яго акадэмік А. Шахматаў вярнуцца ў Петраград для працягу навуковай адукацыі, не пакідае Беларусь, дзе таксама мацнейшыя краіны-суседзі вырашалі свае спрэчкі, зусім не лічачыся з беларускім народам, застаецца на радзіме, выкладае ў Мінскім настаўніцкім інстытуце, спрыяючы рыхтаваць кадры беларускіх педагогаў (у 1919-м арыштоўваўся савецкай уладай па надуманым абвінавачванні). З 1920-га ў варунках савецка-польскай вайны мусіў апынуцца ў так званай Сярэдняй Літве (спрэчнай тэрыторыі паміж Польшчай і Літвою), дзе таксама, у сітуацыі, калі беларускае пытанне маглі выкарыстоўваць толькі як разменную манету, найперш клапаціўся пра беларускую справу. У 1921–1922-я гады – дырэктар Віленскай беларускай гімназіі, адзін з заснавальнікаў і кіраўнікоў Таварыства беларускай школы. У 1922-м як значная асоба ў 30 гадоў абраны паслом (дэпутатам) сейма Польшчы, членам Беларускага пасольскага клуба. У 1925-м стаў на чале Беларускай сялянска-работніцкай грамады, каб дабівацца самаазначэння Заходняй Беларусі, устанаўлення дэмакратыі, канфіскацыі памешчыцкіх зямель (найперш тых, якія польскі буржуазны ўрад амаль бясплатна перадаў пілсудчыкам), 8-гадзіннага рабочага дня і г.д. Гэтыя і іншыя патрабаванні зрабілі Грамаду вельмі папулярнай; яе, зразумела, польскі ўрад не мог палюбіць, цярпеў, пакуль яна не вырасла ў вялікую сілу ў 120 тысяч сяброў, а пасля пачаў правакаваць і ўрэшце ўжыў для яе грубую, разгромную сілу. Ведалі пра моц Грамады і ў Мінску ды Маскве, таму не выпадкова пераманілі Б. Тарашкевіча да КПЗБ.

У 1927-м, калі польскія ўлады ўчынілі разгром Грамады, а з гэтым зняволілі і яе лідэра, пачаўся новы, жудасны этап. Для Б. Тарашкевіча – турэмны, а для Беларусі, парэзанай папалавіне, знішчальны. Прыкладна ў адзін гэты час Ю. Пілсудскі ў Польшчы, а Сталін у СССР пачалі набіраць сілу. І ў Польшчы, і ў СССР гвалтам згортваецца кароценькі перыяд беларусізацыі, каб яна, як сказаў паэт, «не задыхала на ўсе грудзі...»

...Толькі ў 1991 годзе намаганнямі даследчыка беларускай гісторыі, культуры ў Заходняй Беларусі А. Ліса быў выдадзены аднатомнік твораў Б. Тарашкевіча. Там некалькі раздзелаў: грунтоўнае ўступнае слова і каментарыі складальніка, культурна-асветныя артыкулы, пераклады Б. Тарашкевіча, а таксама яго палітычная публіцыстыка на аснове ягоных дэпутацкіх выступленняў у польскім сейме. Апошняе і сёння нельга чытаць без глыбокага хвалявання: многія польскія дэпутаты, якія да рэвалюцыі спачувалі беларускай справе, цяпер, з аднаўленнем польскай дзяржаўнасці, шавіністычна-пыхліва і здзекліва нават у сейме абражалі беларускую гісторыю, мову і культуру непрызнаннем, ганьбаваннем іх, амаль пры кожным выступленні Б. Тарашкевіча правакавалі яго на рэзкасць, шумелі, тупалі нагамі, каб заглушыць ягоны беларускі голас. Давайце пагартаем гэтую кнігу. І цяпер, здаецца, чуеш тыя чалавечае хваляванне, боль, але разумную вытрымку (іначай маршалак найперш яго згоніць з трыбуны). Б. Тарашкевіч на працягу 1923–1927 гадоў у польскім сейме выступаў па самых розных пытаннях, але заўсёды не забываў, што ён не толькі нібыта недатыкальная, забяспечаная асоба, але найперш тут – прадстаўнік беларускага народа. Вось толькі самыя кароценькія вытрымкі з яго сумленных, смелых выступленняў, што робяць яму гонар.


*Б. Тарашкевіч у 1923 годзе*

1923 год: «А патрэбы нашы вельмі вялікія, перш за ўсё ў галіне школьнай асветы. Народ без школы ў роднай мове дзічэе...»;

«Беларускі народ паслаў нас у Сойм у асноўным па дзве рэчы – па школу і па зямлю»;

«Жыццёвыя гарызонты перад намі расчыняцца толькі тады, калі Польшча і Расія паміраццца не па прынцыпу падзелу Беларусі і Украіны, але на аснове іх прызнання».

1924: «За кароткі час польскі ўрад зачыніў 400 беларускіх школ».

1925: «Беларускі народ – народ стары, але разам з тым і малады, малады таму, што адраджаецца і ўступае ў сям'ю жывых... Гэта народ, які меў вялікую культуру, народ, якога мова была мовай гаспадарсцвеннай, які меў сваю гаспадарсцвеннасць»;

«На Усебеларускім з'ездзе 1917 г. у Менску... прадстаўнікі Беларускага народа абвясцілі тагды перад цэлай Расеяй і перад цэлым светам, што хочуць жыць жыццём вольным, жыццём уласным, нацыянальным. Абвясцілі і незалежнасць Беларусі»;

«Створана сістэма ўрадавання, якая мае на мэце поўнае знішчэнне фізічнага тыпу беларуса: да паланізацыі. Перадусім праект каланізацыі і вайсковага асадніцтва...»;

«Далей, што ж робіцца з усёй гаспадаркай краю? Гаспадарка такая, што край нішчыцца дашчэнту. Найвялікшае багацце нашага краю – лес – рабункова ніштожыцца...»;

«Маем далей масавыя праследаванні пад лозунгам – «бальшавік!». І г.д., і г.д! У шматлікім проста варожым атачэнні, калі нават некаторыя міністры дзяржавы фанабэрліва заяўлялі, што на «ўсходніх крэсах праз 50 гадоў і са свечкай не знойдзеш ніводнага беларуса!» Як мог ён, Бранiслаў, сялянскі, з беларускай душою сын, з вытрымкай адказваць на такую «высокую афіцыйную культуру і палітыку тых, хто нёс беларускаму народу апякунства і дабрадзейнасць?!» Калі сказаць па-просту – хамства?! «Варварам з Поўначы» называлі яго! Ды на чарговым судзе над Б. Тарашкевічам (здаецца, у 1930-м) нават польскі адвакат не сцярпеў перад гнюсна шавіністычным суайчыннікам: «За што ён варвар? За тое, што ў нашай турме пачаў перакладаць на родную мову «Іліяду» Гамера?»

У 1933-м у выніку закулісных дамоў паміж сталінскім СССР і пілсудскай Польшчай адбыўся абмен палітвязнямі. У тым ліку і па беларускіх нацыянальнасці ці светапоглядзе. У прыватнасці, у Польшчу адпусцілі беларускага драматурга Ф. Аляхновіча, які ў сярэдзіне 1920-х паверыў «гуманнай ролі БССР і СССР», як В. Ластоўскі і іншыя, перабраўся сюды, каб, як і абяцалі яму, «па-беларуску папрацаваць», але амаль тут жа яму было дадзена «абеларушвацца»... у канцлагеры Салавецкіх астравоў (дзе, дарэчы, прыкладна ў адзін час «перавучваўся» і будучы славуты рускі даследчык даўніны Дз. Ліхачоў). Дык вось у выніку вышэйназванага абмену на беларускай зямлі, паблізу сённяшніх Стоўбцаў, пры ўзброеных канвойніках абмянялі «абаронцу працоўных, падпольнага бальшавіка» Б. Тарашкевіча на «нацдэма» Ф. Аляхновіча. Сцэну гэтага спектакля можна было прачытаць яшчэ да вайны ў кнізе ўдзельніка акцыі Ф. Аляхновіча «У кіпцюрох ГПУ» (1937), які задоўга да А. Салжаніцына адхіліў фіранaчку для позірку на звышсакрэтную і звышзнішчальную сістэму савецкага ГУЛАГА (кніга пасля яе выдання на дзесятках моў пабачыла свет і ў Беларусі ў постсавецкі час).

...Дзейнасць Б. Тарашкевіча шмат вывучала, прапагандавала польская даследчыца А. Бергман (кніга «Слова пра Браніслава Тарашкевіча»; Варшава, 1977; ёсць яе беларускі пераклад, выдадзены ў Мінску ў 1996 г.). А. Ліс яшчэ неаднойчы звяртаўся да спазнання асобы Б. Тарашкевіча (кніга з аднайменнай назвай, 1996) і ў сааўтарстве з Я. Лецкам у творы «Зямля Тарашкевіча» (1991).

У 1999 годзе ў навуковай серыі «Вернутыя з небыцця» (Беларускі навукова-даследчы інстытут дакументазнаўства і архіўнай справы) пад складальніцтвам, рэдакцыяй і з каментарыямі гісторыкаў А. Валахановіча, Ул. Міхнюка выйшла, бясспрэчна, унікальная кніга «Споведзь у надзеі застацца жывым». Гэтае выданне чытаць не лягчэй, а яшчэ цяжэй, чым тое, што раней выйшла пад рэдакцыяй А. Ліса. Як вядома, пасля абмену Б. Тарашкевіча НКУС не пакінуў яго ў любімай ім Беларусі, а для «международного коммунистического дела», для асвячэння спраў у Польшчы і Прыбалтыцы адправіў у Маскву. Хацеў ці не хацеў гэтага наш зямляк, але мусіў падпарадкавацца партыйнай дысцыпліне. Спачатку нібыта сытна жыў у гасцініцы для такіх, як ён, «палітычных», але яму не дазволілі раскошнічаць над перакладамі Гамера ці любімага А. Міцкевіча, а змусілі пісаць «Автобиографию». Здаецца, нічога звышдзіўнага ў гэтым не было. Тады. Але гэта было задумай на хуткую будучыню, дзе Б. Тарашкевічу адводзілася свая роля...

Безумоўна, яшчэ не пажылы, але больш чым вопытны Б. Тарашкевіч ужо цудоўна арыентаваўся, што робіцца ў Польшчы, у Германіі (з прыходам да ўлады Гітлера), у СССР, цудоўна ведаў, што ад яго патрабуецца і што савецкіх нар пазбавіцца нялёгка. А з НКУС яму прапаноўвалі і прапаноўвалі: асвяціце гэта і гэта... Пачаў «асвятляць», многага з чаго не рабіў у панскай Польшчы...

Тая «аўтабіяграфія» адшукана ў нетрах былога савецкага КДБ гісторыкамі А. Валахановічам і Ул. Міхнюком. Ім не раілі даводзіць да шырокага ведама грамадскасці той «опус»: у ім з «парад» Б. Тарашкевіч... агаварыў многіх тых, з кім шчыра рабіў беларускую справу раней. «Паспавядаўся» так, каб зберагчы жыццё не столькі сабе, колькі сваім родным. Перад бязлітасным людам, што лёгка, з усмешкай начэплівае на рукі «бранзалеты» альбо вядзе пад расстрэл. Як і іншым, Б. Тарашкевічу таксама, «споведзь у надзеі застацца жывым» не выратавала жыцця. Ён, як і ў Польшчы, быў асуджаны. Як «шпіён». Але на гэты раз – як «польскі». І расстраляны.

Вось так! Адзін Бог ведае, якімі перад расстрэлам думкамі мучыўся Б. Тарашкевіч, ці ўспамінаў ён словы раней глыбока паважанага ім Ф. Аляхновіча, які пры абмене на савецка-беларускай зямлі 5 верасня 1933 года яго перасцерагаў: «Бронюсь, куды ты ідзеш?»



*З працэсу «Грамады» (малюнкі Язэпа Горыда)*

***У вышэйназванай кнізе А. Валахановіча і Ул. Міхнюка, апроч іншага, расказваецца, як пакутліва нават пасля XX з'езда КПСС у 1956-м, калі пачалі масава рэабілітоўваць загубленых невінаватых, удава Б. Тарашкевіча хацела хоць уведаць, дзе і калі расстраляны яе муж, як ёй заміналі атрымаць такія канкрэтныя даведкі, якія бралі з яе падпіскі... Каб маўчала, выплаквала свой даўні боль толькі сама і нікога такога, як яе муж, не абуджала!..***

***...Лёс незвычайнай беларускай асобы ў XX стагоддзі!.. Мы, сённяшнія, у дзень яе 115-годдзя, можам як глыбока парадавацца, так і глыбока пазасмучацца, што і яе нарадзіла наша гаротная і слаўная беларуская зямля...***

*Генрых ДАЛІДОВІЧ*





# 2007: Год Слова Купалы і Коласа





## З радаводу

Як выяўлена даследчыкамі, адным з родапачынальнікаў будучага нашчадка, класіка беларускай і сусветнай літаратуры Янкі Купалы быў Станіслаў Луцэвіч, які жыў на Беларусі ў XVII ст. За пэўныя свае заслугі перад Бацькаўшчынай – на той час яшчэ моцным ВКЛ – яму быў выдзелены маёнтак Кукялёўшчына з вёскамі Слабодка і Цярпілаўка (паблізу Тонава сённяшняга Стаўбцоўскага раёна). Той маёнтак, мабыць, быў не зусім багаты, а са з'яўленнем дзяцей уладальнікаў неаднаразова дзяліўся, распрадаваўся і да канца XVIII ст. перайшоў у чужыя рукі (дарэчы, пазней менавіта паблізу стаўбцоўскіх Тонава і Рубяжэвіч народзіцца маці Я. Купалы Бянігна).

Радавым гняздом Луцэвічаў з 1692 г. па прывілеі нясвіжскіх князёў Радзівілаў стане Лазараўшчына (непадалёк сённяшняй Мікалаеўшчыны – радзімы будучага Костуся Міцкевіча, яшчэ аднаго карыфея беларускай і сусветнай літаратуры пад іменем Якуба Коласа). На вялікі жаль, у Магіленскім касцёле, дзе захоўваліся некаторыя звесткі пра Луцэвічаў, у 1760-м здарыўся пажар, які знішчыў больш раннія звесткі пра іх. Вядомы продкі Я. Купалы па бацькавай лініі: прапрадзед Іван (1755 г.н.), прадзед Дамінік (1788 г.н.), дзед Ануфрый (1814 г.н.), бацька Дамінік (1846 г.н.). У XIX ст., пазбавіўшыся права на ўласную гаспадарку, Купалавы продкі, як кажуць, маючы шляхетны гонар, «перабіваліся з хлеба на квас» – намагаліся наладзіць гаспадарку (бралі доўгатэрміновую арэнду), служылі ў Радзівілаў і паступова, ад чаго нельга было ўцячы, асяляньваліся. Зрэшты, такіх, як яны, Луцэвічы, на тагачаснай Беларусі было нямала, таму пасля ў выніку змоў з заходнімі краінамі і далучэння яе да Расійскай імперыі, царскі ўрад ставіўся да іх недаверліва, паколькі яны ведалі сваё слаўнае мінулае і абяднелі. Прыніжаныя ва ўсе часы былі «гаручым матэрыялам». А пасля паўстання 1831 г., у якім гэты слой беларускай шляхты, дабіваючыся сваіх ранейшых правоў і зямлі, прыймаў актыўны ўдзел, імперыя ўсяляк замінала, каб не дапусціць іх у лік расійскага дваранства. Працэнт адукаванага, як тады казалі, «вышэйшага, высакароднага люду» быў немалы, царызм намагаўся панізіць гэты лік, «амужычыць» Беларусь як сваю «диалектную ветвь», хоць да 1772 г., да першага падзелу беларускіх зямель, Беларусь ні ў якім выглядзе ў складзе Расійскай імперыі не была. Пасля задушэння паўстання 1863–1864 гг. супраць царызму на Беларусі гэтая імперская тэндэнцыя набрала незвычайную моц.

Луцэвічы здолелі ў 1802 г., згодна законаў Расійскай імперыі, трапіць у яе дваранства, але ў 1830-м іх змусілі ў новы, больш «пераканаўчы», доказ шукаць іншыя дакументы – Мінская дваранская дэпутацыйная зборня шматразова прыймала іх, а вось варожая да беларускай шляхты пецярбургская герольдыя (Дэпартамент герольдыі ў Сенаце) бракавала ўсё гэта, знаходзіла ўсё новыя і новыя прычэпкі, каб унізіць ролю беларускай шляхты і, у прыватнасці, Луцэвічаў. З 1860 г. не менш 15 гадоў, як муха аб шкло, біўся над гэтым Купалаў дзед Ануфры і нарэшце здаўся перад зацятасцю чыноўнікаў з Санкт-Пецярбурга. Такім чынам, за гадоў сем да нараджэння славутага Янкі, Луцэвічы страцілі надзею на ганаровасць свайго шляхетнага роду і былі ўрэшце рэшт выгнаныя з роднага кута. Бацька яго стаў амаль бадзягам, мусячы часта пераязджаць з месца на месца, арандаваць, апрацоўваць чужую зямлю і зарабляць на пражытак цяжкой працай і потам сялянскім.

Метрычная кніга аб народжаных Радашковіцкага касцёла Вілейскага дэканата Віленскай епархіі за 12 ліпеня 1882 г. засведчыла, што «окрещен младенец по имени Иван», сын «дворян» (у сапраўднасці бацькі яго на той час лічыліся мяшчанамі) з Валасевічаў і Луцэвічаў, які нарадзіўся 25 чэрвеня 1882 г. у маёнтку Вязынка. «Рукаприкладство» да дакумента ўчыніла і жонка ўладальніка тагачаснай Вязынкі пані Алімпія Замбржыцкая...

*(Працяг будзе)*



*Бянігна і Дамінік Луцэвічы*

## Колас – у электронным фармаце

У выдавецтве «Мастацкая літаратура» пабачылі свет два кампакт-дыскі з хрэстаматыйнымі творамі класіка беларускай літаратуры Якуба Коласа.

Як паведаміла вядучы спецыяліст выдавецтва Зося Кустава, гэта – першае мастацкае электроннае выданне твораў народнага песняра. Такую ініцыятыву «Мастацкая літаратура» ўзяла на сябе ў сувязі з надыходзячым 125-годдзем з дня нараджэння Канстанціна Міхайлавіча. На адным дыску змешчана паэма «Новая зямля», на другім – трылогія «На ростанях». Як вядома, абодва творы вывучаюцца ў рамках абавязковай школьнай праграмы па беларускай літаратуры, а таму асноўнымі адрасатамі дыскаў, спадзяюцца выдаўцы, павінны стаць менавіта настаўнікі ды вучні.

Выданне мае шэраг адметнасцей, якія нельга не залічыць і ў шэраг іх вартасцей. Так, прадмовы да кожнага з твораў напісаў вядомы літаратуразнаўца, доктар філалагічных навук, прафесар, член-карэспандэнт НАН Беларусі М. Мушынскі. Іх назвы гавораць самі за сябе: «Яна – асноўная паэма ўсёй маёй творчасці» (словы самога Коласа адносна «Новай зямлі») і «Інтэлігенцыя і народ на зломе гістарычнай эпохі: пошук шляхоў у будучыню». У даступнай (у тым ліку для школьнікаў) форме даследчык раскрывае тут мастацка-культурнае значэнне Коласавых твораў, паказваючы перадусім сусветны маштаб асобы і літаратурнай спадчыны пісьменніка. Дарэчы, менавіта Міхась Мушынскі – аўтар прадмовы і да 20-томнага акадэмічнага выдання Коласа, выхад якога запланаваны на бліжэйшыя гады. Натуральна, што ацэнкі Коласавай творчасці ў школьным электронным і акадэмічным папяровым выданнях не будуць прынцыпова адрозніваццa.

Немалаважным падаецца той факт, што і «Новая зямля», і «На ростанях» на дысках забяспечаны каментарыямі. Іх адпаведна зрабілі Э. Золава і С. Забродская – зноў-такі, супрацоўнікі Інстытута літаратуры НАН Беларусі, якія самым непасрэдным чынам задзейнічаны і ў акадэмічным праекце.

Нарэшце, электроннае выданне адметнае і тым, што ў ім змешчаны «серыял» жывапісных палотнаў «Радзіма Якуба Коласа» мастака У. Сулкоўскага. Тэксты да карцін з твораў і лістоў народнага песняра падабраны ўнучкай пісьменніка В. Міцкевіч. Увесь гэты мастацкі матэрыял можа выкарыстоўвацца на ўроках беларускай літаратуры на мультымедыйных установках (з праецыраваннем на экран карцін і цытат), а таксама пры арганізацыі святочных пазакласных мерапрыемстваў, якіх, няцяжка здагадацца, у юбілейным для Коласа годзе ў краіне будзе праводзіцца шмат.

***Мікола ЧЭМЕР***
***(Паводле «Настаўніцкай газеты», 28 снежня 2006 г.)***

### *115 гадоў таму*

## З прадмовы да зборніка «Дудка беларуская»

Братцы мілыя, дзеці Зямлі-Маткі маёй! Вам ахвяруючы працу сваю, мушу з вамі пагаварыць трохі аб нашай долі-нядолі, аб нашай бацькавай спрадвечнай мове, каторую мы самі, ды і не адны мы, а ўсе людзі цёмныя «мужыцкай» завуць, а завецца яна «беларускай». Я сам калісь думаў, што мова наша – «мужыцкая» мова і толькі таго. Але, паздароў Божа добрых людцаў, як навучылі мяне чытаць, пісаць, з тэй пары я шмат гдзе быў, шмат чаго відзеў і чытаў, і пераканаўся, што мова наша ёсць такая ж людская і панская, як і французская, або нямецкая, або іншая якая. Чытаў я ці мала старых папераў, па дзвесці, па трыста гадоў таму пісаных у нашай зямлі і пісаных вялікімі панамі, а нашай мовай чысцюсенькай, як бы вот цяпер пісалася. Увідзеўшы гэта, я часта думаў: Божа ж, мой Божа! Што ж мы за такія бяздольныя?! – Якаясь маленькая Балгарыя – са жменю таго народу, – якіесць Харваты, Чэхі, Маларусы і другія пабратымцы нашыя і розныя чужыя маюць па-свойму пісаныя і друкаваныя кніжачкі і газеты, і набожныя, і смешныя, і слёзныя, і гісторыйкі, і баечкі, і дзеткі іх чытаюць так, як і гавораць, а ў нас як бы захацеў цыдулку ці да бацькі лісток напісаць па-свойму, дык можа б і ў сваёй вёсцы людзі сказалі, што «піша па-мужыцку», і як дурня абсмяялі б! А можа і сапраўды наша мова такая, што ёю нічога добрага ні сказаць, ні напісаць не можна? Ой не! Наша мова для нас святая, бо яна нам ад Бога даная, як і другім добрым людцам... Нас жа не жменька, а з восем мільёнаў...

...Шмат было такіх народаў, што страцілі найперш мову сваю, так як той чалавек прад скананнем, катораму мову займе, а потым зусім замерлі. Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмерлі! Пазнаюць людзей ці па гаворцы, ці па адзежы: хто якую носе; ото-ж гаворка, язык і ёсць адзежа душы.

Ужо больш як пяцьсот гадоў таму, да панавання князя Вітэнеса на Літве, Беларусь разам з Літвой баранілася ад крыжацкіх напасцей. Можа хто спытае: гдзе ж цяпер Беларусь? Там, братцы, яна, гдзе наша мова жывець: яна ад Вільні да Мозыра, ад Віцебска за малым не да Чарнігава, гдзе Гродна, Мінск, Магілёў, Віцебск, Вільня і шмат мястэчкаў і вёсак...

*1891 г.*
***Мацей БУРАЧОК***

## З радаводу

Здаецца, вялікі нямецкі пісьменнік І. Гётэ зазначыў: каб як след спазнаць творчасць пісьменніка, трэба глыбока ўведаць ягоную радзіму, побыт народа, яго мову і культуру. У гэтым сэнсе Якубу Коласу пашанцавала. Ён нарадзіўся ў вельмі адметнай прынёманскай мясціне, у дзяцінстве пабываў таксама ў каларытных кутках, а пасля здолеў усё гэта зусім проста, але разам з тым і геніяльна адлюстраваць у многіх вершах і ў паэме «Новая зямля».

Радавод Я. Коласа мала вывучаны: яго продкі былі прыгонныя сяляне, не ўсе валодалі пісьменнасцю, не пакінулі пасля сябе сямейных запісаў альбо фотаздымкаў. Больш-менш акрэслена па гэтым радаводзе можна арыентавацца па так званых «рэвізскіх сказках» 1858 г. («рэвізскія сказкі» – імянны пералік насельнікаў паселішча ці асобных двароў). Гэтыя дакументы сведчаць, што продкі Я. Коласа належалі князям Радзівілам. Нясвіжская ардынацыя (ад лац. кірую) князёў Радзівілаў лічылася непадзельнай і неадчужальнай уласнасцю іхняга роду і пераходзіла ў спадчыну да старэйшых нашчадкаў па мужчынскай лініі. Ардынацыя была ўтворана ў XVII ст. У канцы XIX ст. мела звыш 150 тысяч дзесяцін зямлі, 8 гарадоў і мястэчак, да 150 маёнткаў і фальваркаў, 8 лясніцтваў, дзе было каля 60 тысяч дзесяцін лесу.

З вывучэння архіўных дакументаў, метрычных кніг былога Мікалаеўскага касцёла вядомыя прапрадзед Я. Коласа Лявон Міцкевіч (пахаваны ва ўзросце 41 года на мікалаеўскім парафіяльным могільніку ў 1797-м) і прапрадзед з боку маці Ігнась Лёсік, сын якога Язэп (прадзед) нарадзіўся ў 1791-м, а таксама вядомыя імёны бабулі Я. Коласа па бацькоўскай лініі (Домна, прыкладна 1796 г.н.), яе сына, г.зн. Коласавага дзеда (Казімір Міцкевіч, 1821 г.н.), яго жонкі (Ганна, таксама з 1821 г.н.). Бацька Міхаіл нарадзіўся ў Мікалаеўшчыне прыкладна ў 1855 г., сярод братоў быў трэцім па ліку. Дзед па матчынай лініі – Юры Лёсік (з той жа Мікалаеўшчыны, прыкладна з 1837 г.н.) бабуля – Крыстына, з 1838 г.н., іхняя дачка, маці Я. Коласа Ганна Юр'еўна, пабачыла свет прыкладна ў 1857 годзе[1].

Коласава Мікалаеўшчына ўпамінаецца з 1555 г. (называецца трэці па ліку яе ўладальнік – значыць, паселішча ўзнікла значна раней). У выданнях за 1876 г., незадоўга да нараджэння Я. Коласа, пазначана, што ў Мікалаеўшчыне на той час было каля 640 душ, перабудаваная з касцёла праваслаўная царква. Паколькі яго бацька служыў леснікам у Радзівілаў, то, ажаніўшыся ў 1878-м, спачатку жыў у роднай вёсцы (там нарадзіліся сын Уладзя, 1878; і Алесь, 1880), а пасля мусіў пакінуць родную вёску і жыць з сям'ёй там, куды яго пасылалі. Вось у Акінчыцах, што некалі былі пры вёсцы каля дарогі са Свержаня ў Мікалаеўшчыну, а цяпер у межах Стоўбцаў 3 лістапада 1882 года і пабачыў свет яго трэці сын, Кастусь Міцкевіч. У сям'і Міхала Казіміравіча і Ганны Юр'еўны было 13 дзяцей (чацвёра з іх памерлі ў юным узросце), разам з многімі з іх будучы песняр вандраваў па прылеглых да Мікалаеўшчыны ваколіцах – Ластку, Альбуці, Стаўпецкай лясной каморы, Смольні, дзе памагаў маці і дзядзьку Антосю па гаспадарцы, гадаваць малодшых братоў і сясцёр і з 1890-га пачынае зімой вучыцца ў вандроўных настаўнікаў, так званых «дарэктараў». Першы «дарэктар» быў Алесь Фурсевіч, другі – Янка Міцкевіч.

1892–1894 гады. Я. Колас вучыцца ў Мікалаеўскай пачатковай школе (дарэчы, дзеля яе адкрыцця шмат зрабіў яго дзед па матчынай лініі Юры – адзін з самых пісьменных людзей у Мікалаеўшчыне, які складаў адпаведныя лісты ў вышэйшыя інстанцыі). Там юнак шырэй і мэтанакіравана далучаецца да чытання твораў рускай літаратуры і, як пазней пазначыць сам, упершыню пазнаёміцца з творамі (перапісанымі ад рукі) Я. Лучыны, што зрабілі на яго вялікае ўражанне.

1895–1897 гг. Я. Колас пасля заканчэння пачатковай школы жыве ў Альбуці, памагае бацькам па гаспадарцы і дбайна рыхтуецца да паступлення ў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю (а рыхтавацца ўзмоцнена трэба было, асабліва па рускай мове і літаратуры, бо ў вучэльню маглі не прыняць і «из-за сильного белорусского акцента, который может испортить красоту русской речи будущего учителя начальных классов»).

*(Працяг будзе)*

[1] Слова «прыкладна» ўжываецца таму, што аўтар радаводу нашых класікаў вёў і свае падлікі году нараджэння іх продкаў.



*Хата ў Акінчыцах (1982 г.)*

*Рубрыку «З радаводу» вядзе пісьменнік Генрых ДАЛІДОВІЧ*





# Гістарычнае падарожжа

*Неяк сустрэў слонімскага настаўніка-пенсіянера Мікалая Іванавіча Ракевіча. Пачалі размову пра жыццё-быццё, а потым гаворка пайшла пра гісторыю і людзей нашай роднай старонкі.*

*– Я родам з-пад Азярніцы, з вёсачкі Ваўчкі, давай калі з'ездзім і паглядзім тыя мясціны, – прапанаваў Мікалай Іванавіч.*

*І вось у адзін з вераснёўскіх дзён мы селі ў машыну і накіраваліся да Азярніц. Мікалай Іванавіч, як дасведчаны экскурсавод, адразу пачаў расказваць пра сваіх землякоў.*

## Аповед пра Івана Багдановіча

Жыў у Збочне даволі заможны чалавек – Іван Багдановіч. Пры Польшчы Багдановіч меў маёнтак, гектараў сто зямлі, каля 10 коней, паўсотні кароў. У 1939 годзе на Слонімшчыну прыйшлі бальшавікі, але яны яго не чапалі: Багдановіч не лез у палітыку, а спакойна жыў і працаваў на зямлі. Вельмі любіў паляванне. Прыедуць новыя ўлады, ён з імі едзе на паляванне. Пасля ідуць да яго, вып'юць, закусяць. Быў Багдановіч для іх сваім чалавекам. Прыйдуць забіраць карову, ён адчыніць дзверы і кажа: выбірайце любую. Тыя возьмуць сабе карову. Хто хоча каня – бярыце каня. Ён ніколі не супраціўляўся. Калі прыйшлі немцы, тыя, хто пры бальшавіках у яго браў каня, карову, сталі яму вяртаць. Баяліся. Але ён нікому нічога не казаў. Лячыў коней, кароў. З людзьмі заўсёды жыў добра, шчыра ўсім дапамагаў. Пасля вайны таксама яго не чапалі, пад рэпрэсіі ён не трапіў. Іван Багдановіч пражыў шмат гадоў, пахаваны ў Збочне.

Дарэчы, у гэтай вёсцы было чалавек дваццаць заможных. Але самым шчырым і заадно дзіўнаватым сярод іх быў Іван Багдановіч. Яго і сёння людзі добрым словам згадваюць.

## Гумнішчы

Як уязджаеш у Азярніцу з шашы Слонім–Зэльва, з правага боку відаць кусты, старыя дрэвы і некалькі разбураных хат.

– Тут была вёска Гумнішчы, – кажа Мікалай Ракевіч. – У ёй нарадзіўся беларускі паэт і празаік Уладзімір Аляхновіч.

Са слоў Мікалая Іванавіча мы даведаліся, што ў гэтай вёсцы было каля дзесяці хат. Спачатку, відаць, тут знаходзіліся гумны вяскоўцаў з Азярніцы, а пасля сюды перасяліліся некалькі сем'яў.

Мясціна насупраць Гумнішча называецца Маліва.

– Відаць, тут было маляўнічае месца, – разважае Мікалай Ракевіч. – Раней людзі давалі мясцінам і вёскам назвы, якія ім адпавядалі. Не так, як цяпер, – «Пераможцаў», «Незалежнасці». А мясціна, што побач з Малівам, – Пацяроб.

## Пра вёску Ваўчкі

Пра родную вёску Ваўчкі Мікалай Ракевіч нам расказваў з радасцю і з нейкім настальгічным смуткам. Маўляў, няма таго, што было раней. Ён паказаў нам, дзе жылі яго бацькі, дзе была іх зямля. Завёў у хату да старэйшага жыхара Ваўчкоў Васіля Дзянісавіча Ракевіча, якому ўжо споўнілася 96 гадоў. Але Васіль Дзянісавіч нешта занядужаў, і мы не сталі турбаваць старога чалавека.

– Гм, месяц таму я з ім гутарыў, сядзеў на лаўцы. А цяпер зусім занямог, старэча, – уздыхнуў Мікалай Іванавіч.

Са слоў нашага гіда мы даведаліся, што Ваўчкі – гэта выселак, дзе сто гадоў таму налічвалася 13 двароў. Калі вярталіся з рэкрутаў вайскоўцы, пасля 25 гадоў службы, ім у Клепачах не давалі зямлі, а сялілі па рашэнні вясковай абшчыны ў Ваўчках, на выселках, давалі па гектару зямлі. Былы вайсковец сяляўся там, браў сабе жонку і спакойна працаваў на зямлі.

20 гектараў зямлі ў Ваўчках, па словах Мікалая Ракевіча, меў і «амерыканец». Так звалі Міхаіла Антонавіча Ракевіча. Ён ездзіў у Амерыку, працаваў там на шахтах, зарабляў грошы і з імі прыязджаў у родную вёску.

У Ваўчках жыў багаты чалавек Маркевіч. Ён меў шмат сваёй зямлі, бровар. Падчас паўстання 1863 года дапамагаў паўстанцам. Пасля яго арыштавалі і саслалі ў Сібір, бровар прадалі, а зямлю раздалі былым рэкрутам.

Бровара Маркевіча даўно ўжо няма. Засталася толькі крыніца, якая па-ранейшаму булькоча сярод вербалозу і травы. Яна нагадвае пра нашага сужыхчаніка Маркевіча, які з тысячамі беларусаў змагаўся супраць самадзяржаўя. Ды і наогул Слонімшчына ў той час была адным з актыўнейшых асяродкаў паўстання.

## Здраднік стараста Макарэвіч

У XIX стагоддзі сярод беларусаў былі і здраднікі. Адзін з іх – стараста Макарэвіч, магіла якога знаходзіцца на азярніцкіх могілках недалёка ад царквы. Макарэвіч выдаў расійскім войскам некаторых паўстанцаў 1863 года, у тым ліку аднаго з кіраўнікоў паўстання – Карла Масальскага. Яго схапілі, пасадзілі ў клетку і некалькі дзён вазілі па Слоніме, каб запалохаць мясцовых люд. Пасля на рыначнай плошчы яго павесілі.

Але паўстанцы забілі Макарэвіча, гэтым самым адпомсціўшы яму. Гродзенскі генерал-губернатар за тое, што ён выдаў паўстанцаў, «узнагародзіў» яго пасмяротна: загадаў пахаваць Макарэвіча каля самай царквы і ўсталяваць надмагільны помнік. Загад губернатара выканалі. На помніку прымацавалі дзве шыльды. На адной напісалі: «Замученный польскими мятежниками», а на другой змясцілі такі тэкст: «Памятник сей сооружён в 1869 г. в назидание потомству по инициативе и на средства Его Высокопревосходительства г. Виленского, Ковенского и Гродненского генерал-губернатора М.С. Каханова при материальном содействии крестьян Чемерской волости».

У 1930-х гадах шыльду з тэкстам «Замученный польскими мятежниками» людзі сарвалі і выкінулі. Да нашых дзён у Азярніцы каля Свята-Мікалаеўскай царквы зберагалася магіла таго чалавека і адзін надпіс на помніку.

## Рыначная плошча

Першае ўпамінанне пра вёску Азярніца адносіцца да 1478 года. Кароль Казімір Ягелончык падараваў Азярніцу шляхціцу Васілю Капачэвічу. Праз 400 гадоў у мястэчку Азярніца, як напісана ў кнізе «Памяць. Слонімскі раён» (Мн., 2004), пражывала ўжо 418 чалавек. Там дзейнічалі праваслаўная царква, сінагога, школа, працавалі 4 крамы, харчэўня, заезны двор. А яшчэ ў Азярніцы каля царквы два разы на год праводзіліся кірмашы – 9 мая і 6 снежня. І цяпер гэтае месца ў Азярніцы старэйшыя людзі называюць Рыначнай плошчай. Тут некалі гандлявалі адзеннем, прадуктамі харчавання і збожжам, прадавалі коней, кароў, свіней.

Цяпер кірмашы ў Азярніцы не ладзіцца. А шкада. Добра было б адрадзіць тыя шматвяковыя гандлёвыя традыцыі. Тым больш, што і сёння ў Азярніцы, як і ў 1886 годзе, жыве больш за 400 чалавек.

## Гарадзішча

З Азярніцы мы накіраваліся ў вёску Збочна. На яе паўднёва-заходняй ускраіне захавалася гарадзішча II стагоддзя н.э. Гарадзішча, дыяметр якога каля 60 метраў, круглае і высокае. Яго даследавалі многія польскія, беларускія і рускія археолагі ды гісторыкі. Каля гарадзішча стаіць знак, на якім напісана, што гэта археалагічны помнік і ён ахоўваецца дзяржавай.

На поўнач ад яго знаходзіцца стары могільнік, а на ўсход – селішча, на якім археолагі адшукалі даволі рэдкія вырабы ганчарнай керамікі. Мы падняліся на гарадзішча, каб адчуць дух нашых далёкіх продкаў. На вяршыні валяліся бутэлькі ад спіртных напояў, пачкі ад цыгарэт, папера. Што ж, кожны па-свойму вяртаецца да беларускай мінуўшчыны. Археолагі на гарадзішчы ў Збочне заўсёды знаходзілі каштоўныя старажытныя рэчы – посуд, прылады працы, упрыгажэнні. Можа, і праз сто ці трыста гадоў нехта знойдзе бутэльку з-пад «Белай вежы» ці пачак ад «Космасу». У кожнага пакалення свае захапленні і свае радасці.

## Магіла маці Кандрата Лейкі

Недалёка ад гарадзішча вяскоевец варочаў сена. Падышлі да яго, пазнаёміліся.

– Міхаіл Лейка, – назваў сябе вяскоевец.

– Можа, вы далёкі сваяк Кандрата Лейкі? – пытаемся.

– Можа, і сваяк, не ведаю. Чуў, што быў такі пісьменнік – Кандрат Лейка. А вось што ён напісаў – не чытаў, – апраўдваўся Міхаіл Лейка.

– А ці ведаеце, дзе знаходзіцца магіла маці Кандрата Лейкі?

– Не, не ведаю. У Збочне шмат старых магіл, пашукайце там, – параіў вясковец.

На гэтым мы развіталіся і паехалі на могілкі. Калі пад'ехалі да царквы (а яна знаходзіцца на самых могілках), здалёк кінулася нам у вочы старая, прыгожая і вельмі дарагая на той час кованая агароджа. Помнік на магіле разбіўся. Паднялі з зямлі ўцалелую шыльду і... вачам сваім не паверылі – гэта ж магіла маці Кандрата Лейкі. На ёй прачыталі: «Здесь покоится прах рабы Божей Таклюси Лейко 62 л. 18 января 1881 г. Дорогой матери от любящих детей».

Па частках нехта злучылі помнік, каб хоць яго сфатаграфаваць. Усё ж ён прастаяў 125 гадоў. Калі памерла маці, Кандрату было 21 год. Ён тады працаваў настаўнікам у Косаве. У моцную завіруху на санях дабіраўся ў родную вёску. Маці застаў яшчэ жывой, але нічым дапамагчы ёй ужо не змог. Яна вельмі хацела жыць, каб пабачыць, які лёс напаткае яе вучоная сына. А лёс у сына быў трагічны.

Кандрат Лейка прысвяціў сваёй маці апавяданне. Ён вельмі любіў матулю і шчыра давяраў ёй, моцна захапляўся яе высокай маральнай чысцінёй і справядлівасцю, яе прыроднымі разумовымі здольнасцямі. У адным з апавяданняў, якое называецца «Таклюся-сухотніца», Кандрат Лейка стварыў вобраз сваёй маці – простай сялянкі, якая ў апавяданні ўзнімала найважнейшыя праблемныя пытанні таго часу: «Перад Таклюсяю цяпер неразгаданаю загадкаю сталі тры цікавыя пытанні: Калі паміж людзьмі будзе праўда? Ці дадуць калі-небудзь беднякам зямлі? Калі ўсім людзям дазволена будзе вучыцца і маліцца на сваёй роднай мове?»

Пазней удзячны сын разам са сваякамі паставіць на магіле маці ў Збочне помнік. І на ім напіша: «Таклюся Лейко». Напіша так, як яе звалі вяскоўцы. А вось пытанні, узнятыя Таклюсяю сто гадоў таму, застаюцца надзённымі і сёння.

*Сяргей ЧЫГРЫН, г. Слонім*



*Гэтыя здымкі зробленыя ў Жлобіне і Старых Дзевяткавічах – старая дарога ў парку Слізняў і царква Святой Параскевы Пятніцы. Фота з radzimy.org*





# Дзесяць гадоў без яе

Знаходжанне Заходняй Беларусі ў складзе Польшчы – асобны перыяд у гісторыі нашай краіны. Асобны перыяд і ў гісторыі літаратуры. Менавіта Заходняя Беларусь дала нам такіх пісьменнікаў, як Максім Танк, Валянцін Таўлай, Піліп Пестрак... Прозвішчаў не так і шмат, але што ні такі «заходнік», то вядомы на ўсю краіну. Была сярод тых літаратараў і Ганна Новік.



Лёс паэткі вельмі складаны і цяжкі. Быў, бо ў студзені 2007 года спаўняецца дзесяць гадоў, як Ганны Аляксееўны не стала. Але памяць засталася. Доказам таму і два пасмяротныя зборнікі вершаў паэткі (за жыццё паэтка выдала толькі адну кнігу), і публікацыі пра яе ў мясцовым друку, а таксама невядомыя шырокаму колу чытачоў празаічныя творы.

Нарадзілася паэтка ў 1914 годзе ў горадзе Аўгуставе (сёння – тэрыторыя Польшчы). Дзяцінства прайшло ў вёсцы Варонічы Вілейскага раёна. У часы польскай акупацыі Заходняй Беларусі Ганна Аляксееўна ўключылася ў нацыянальна-вызваленчы рух. Правяла каля двух гадоў у турме. Падчас допыту ў дэфінзіве атрымала калецтва вока. У 1937 годзе ўпершыню выступіла ў друку са сваімі вершамі. Пра іх з'явіўся водгук ў «Беларускім летапісцы».

*«Вайна прайшла праз сэрца і душу...»* – напіша паэтка пра Вялікую Айчынную. Пра вайну, на якой Беларусь страціла кожнага трэцяга свайго жыхара. Сама паэтка стала партызанскай сувязной, за што была ўзнагароджана ордэнам Вялікай Айчыннай вайны II ступені і медалямі. Па вайне займала пасаду старшыні калгаса імя Леніна ў вёсцы Варонічы, старшыні Кузьміцкага сельсавета на той жа Вілейшчыне. На Будслаўскай МТС была памочнікам начальніка палітаддзела.

Яшчэ ў 1939 годзе маладая паэтка пазнаёмілася з маладзейшым, але ўжо шырока вядомым Максімам Танкам. Завязалася сяброўства. Танк быў адным з першых, хто ў паваенны час адгукнуўся на вестку паэткі, прапанаваў ёй сваю дапамогу.

У 1960 годзе Ганна Аляксееўна была прынятая ў шэрагі пісьменніцкай брацiі – Саюз пісьменнікаў. Хоць толькі праз год у паэткі выйшаў першы і апошні прыжыццёвы зборнік вершаў «Мае вёсны». Кніжачка выйшла накладам 1 730 асобнікаў і ўвабрала ў сябе ўсяго 22 вершы, датаваныя 1937–1958 гадамі. Кніжачка на Вілейшчыне – вялікае рэдкасць. Падчас святкавання 90-годдзя пісьменніцы ў 2004 годзе ні бібліятэкары, ні музейшчыкі не змаглі прадэманстраваць яе. У прадмове да зборніка Піліп Пестрак напісаў: *«Недзе ў шэрагу заходнебеларускіх паэтаў, творчыя вытокі якіх пачаліся ад удзелу ў масавай барацьбе за вызваленне з-пад польска-фашысцкай акупацыі, значацца сляды і Ганны Новік. <...>*

*Прапануемы чытачу зборнік вершаў Ганны Новік «Мае вёсны» не прэтэндуе на шырокі ахоп падзей у свеце, не прэтэндуе на тыя ці іншыя пошукі зместу ці формы. Гэта – песня сваёй, мясцовай птушкі аб тым, што робіцца ў сябе дома, што мае тую ці іншую сувязь з падзеямі ў краіне»*.

А яшчэ Ганна Новік пісала прозу. Як адзначае літаратуразнаўца Мікола Мікуліч, тое, што Ганна Аляксееўна *«пачала спрабаваць сябе ў жанрах апавядання, аповесці, нарыса, – вялікая заслуга Максіма Танка»*.

За апошнія дзесяць гадоў выйшлі два паэтычныя зборнікі паэткі. Першы, «Мая Вілейшчына», рыхтаваўся яшчэ пры жыцці Ганны Аляксееўны. Тады яна ўжо была слабая. Загадчыца раённай бібліятэкі Раіса Соніч прыходзіла на кватэру Г. Новік і запісвала яе ўспаміны. Яны і сталі ўступным артыкулам да кніжкі, якую паэтка, на жаль, не паспела пабачыць. А ў 2004 годзе пачалася праца над выданнем новага зборніка «Барвовае лісце». У гэтым заслуга паэта Івана Лашуткі і Раісы Соніч. Іван Іосіфавіч рэдагаваў кніжку. А вось убачыць яе не паспеў – адышоў у іншы свет. Яшчэ перад смерцю паэт пісаў пра сваю калегу: *«Ганна Новік з кагорты тых, хто свой жыццёвы вопыт і прафесійны талент аддавала роднай Беларусі, развіццю яе мовы і культуры. Не абласканая асабістым лёсам, яна заўсёды несла сваю дабрыню і любоў да людзей. І, як родная беларуская песня, паэзія Ганны Новік не згубіць свой след на літаратурнай ніве Бацькаўшчыны»*.

Хацелася б у хуткім часе акрамя паэтычных зборнікаў убачыць і кнігу прозы. Хай сабе празаічны радок Ганны Аляксееўны не такі сакавіты, як паэтычны, усё ж і ён павінен чытацца.

***Сяргей МАКАРЭВІЧ***



**На зямлі Вілейшчыны**

*Фота Уладзіміра ПУЧЫНСКАГА*

***Ганна НОВІК***

### З верша «Калі спынюся»

*Дваццаты век, усё імчыцца:*
*Машыны, мары і народ,*
*Ні азірнуцца, ні спыніцца,*
*Нідзе не бачыш перашкод.*

*А калі бачыш – не заўважаеш,*
*Усё пад сілу, як усім.*
*І я ніколі не чужая*
*Ні ў чым сучаснікам маім.*

*Калі спыняюся, бывае,*
*Ды азіраюся назад,*
*То са здзіўленнем заўважаю,*
*Што даганяе лістапад.*

*Я да яго не рыхтавала*
*Сябе ні трошкі, бо заўжды*
*Мне проста часу не ставала*
*Усе мінулыя гады.*




***(Заканчэнне. Пачатак у № 2)***

Севярын сам пяты год вучыць дзяцей пісаць і «чытаць навуку». Малодшаму, Казіміру, амаль 17 гадоў. Бацька вучыць яго думаць, а не маляваць усялякія прыдумкі дзень і ноч.

Але толькі крэйда, фарбы і папера даюць Казіміру спакой і ўнутраную радасць. Ён марыць аб вялікім горадзе. У горадзе багата людзей. Шмат гарадской працы. Ідзі хоць маляром, хоць чарцёжнікам.

Ёсць у Казіміра сябар, які таксама малюе і пакурвае мясцовы тытунь з хмелем. Піцерскі басяк, ужо які год летам падсілкоўваецца каля мясцовага малочнага заводзіка. Хоць крыху крадзе, але сябра верны. Кліча зімой у Маскву. Вучыць маляваць. Гаворыць, што за ўсе малюнкі ў горадзе даюць вялікія грошы. Што там мастакі і маляры ўсе багатыя і вясёлыя.

І жыць у горадзе ёсць дзе. У бацькі рэпутацыя моцная і шмат тайных сяброў. І ў Кіеве, і ў Маскве, і ў Курску.

Мары аб гарадскім жыцці не даюць Казіміру спаць. Ён рвецца з дому. Кліча за сабой і брата. Але нехта павінен і дома працаваць на сваім кавалку зямлі паміж Капылём і Какорычамі, дзе так слаўна родзіцца пшаніца і ёсць лепшы ў акрузе лужок з пчалінымі вуллямі.

Сям'я вырашае адпусціць Казіміра ў свет. Нават – у Кіеў ці ў Расію. Тым больш, што ўсе яго лічаць блазнаватым маляром. Усе пабеленыя капыльскія агароджы і печкі вугалем размалёўвае.

Для пачатку Казіміру можна пажыць у знаёмага кіеўскага маляра. І за ежу дапамагаць яму фарбаваць панскія маёнткі і гарадскія сядзібы. Праца простая і цікавая. У той жа час можна і вучыцца на чарцёжніка ў пана архітэктара. Вучыцца без аплаты: пан з цікавасцю глядзіць на Казіміравы накіды. І яшчэ ў пана можна браць колькі пажадаеш паперы, алоўкаў і каляровай тушы...

* * *

Пасля пыльных канатопскіх стэпаў капыльскія лясістыя пагоркі з рачулкамі, поўнымі ракамі і рыбаю, здаваліся блажэнным месцам. Можна кожную раніцу купацца ў рэчцы Мажа альбо гуляць у панскім парку ў Кацельніках, дзе яшчэ многія памятаюць Казіміра і сяброўства яго бацькі з колішнім гаспадаром, родным братам знакамітага паплечніка Каліноўскага.

У сям'і Казіміра багата расказвалі аб гэтым блізкім іх сям'і «пану». Пасля ўдзелу ў паўстанні Каліноўскага ён гніў у сібірскай ссылцы. Першы інжынер Капыльшчыны, адукаваны ў Пецярбурзе. Агітатар, які прымушаў сваіх сялян не толькі вучыцца грамаце і выгадзе, але і даваў грошы на школу і на «лабараторыю», дзе лячыў сялян і вучыў іх, як пазнаць надвор'е. Галоўны расказчык пра далёкую Амерыку, і ад гэтых расказаў замірала не адно сэрца на Капыльшчыне...

Новыя гаспадары Кацельніцкай сядзібы і іх дзеці не любяць выстаўляць сябе за паноў, але блізка да сябе Казіміра не дапускаюць. Ведаюць, што сям'я вярнулася дадому пасля дзесяці гадоў жыцця на чужыне. Казіміру крыўдна, што яго лічаць «хахляцкім» чужынцам.

Нічога, ён хутка адыграецца. На іх знакамітых конях.

Можа, яны зразумелі што? Як ні старайся, ні хвасты прычасаць, ні грыву заплесці панскім коням на дазваляюць. А коней у Кацельніках шмат. Калі вечарам на яркі захад сонца канюхі са свістам выганяюць іх галопам у поле, здаецца, што яны ляцяць, а іх наезднікі – як чырвоныя анёлы. Нават супраць сонца відаць, як ланцуг коней ў рад адлюстроўваецца ў марыве неба і блікі сонца, якое заходзіць, распадаюцца каляровымі сполахамі на паспелым калоссі бясконцага збожжавага поля...

Пры чырвоным сонцы – усе коні чырвоныя. Пры залатым захадзе – бліскучыя сярэбраныя прывіды, якія лятуць у нікуды і знікаюць за даляглядам, у бясконцай смузе часу...

Але браты Казімір і Павел «хітрыкі»: умеюць паказаць сябе. Ёсць справы ў маёнтку, з якім без братоў нікому не справіцца. Восеньскія запасы. Шмат працы. Грушы бэры памерам з конскі каштан. Яблыкі. І асабліва засолка агароднiны і грыбоў на зіму.

Па старых прыкметах, усё трэба мыць пры месяцовым святле толькі ў каламутным панскім возеры. Там крыніцы, і вада салодкая і срабрыстая. Лепшы панскі спосаб нарыхтоўкі: адмытыя грушы, яблыкі, гуркі, кавалкі гарбузоў, стручкі гароху і фасолі, рэдзьку з хрэнам утоптваюць ў дубовыя бочкі, бочкі напаўняюць крынічнай вадой з травамі, забіваюць крышкамі і топяць ў возеры пад ваду. Грыбы заліваюць халодным настоем солі з хрэнам. Лепшая трава для гэтай варажбы – залататысячнік, ягадныя галінкі ядлоўцу і дзікая морква-сетачка. Гэтыя ж травы капыляне любяць утапіць у жытнёвым первачы, які становіцца залатым і празрыстым і аддае ледзь гаркаватай салодкавасцю. Здымае ўвесь боль і загойвае любыя раны, душэўныя таксама.

Казімір ведае, што тапіць бочкі ў возеры трэба ціха: калі хоць адзін пузыр булькне, такая бочка не падыходзіць. Яе перапарваюць, адскрэбваюць крывымі кушнерскім нажніцамі, сушаць над вогнішчам, забіваюць і зноў топяць.

Пасля працы ў маёнтках – агульная гульба. Зялёнага піва з мясцовым хмелем хоць адбаўляй. Панскія дзеці гарцуюць на конях да ночы. Тут можна і пракаціцца, і да коней прыглядзецца. З канём трэба пасябраваць. А калі напаіць яго салодкім півам або брагай – сяброўства будзе не разлі дажджом.

Апрануцца на гулянку трэба чыста і адпаведна. Каляровыя панчохі – абавязкова. Ільняныя кофты ў мясцовых кушняроў чырвоныя альбо залатыя. Чорныя скураныя «тупанкі» для танцаў.

Цесляры да гэтага дня рыхтуюць кляновае, у тры абхваты, бярвенне на лаўкі, якія клінамі расколваюць напалову і сякерамі прачэсваюць да чысціні. Такімі сякерамі і галіцца можна, да таго вострыя. Крыўдна, што хлопцам іх нават патрымаць не даюць. Не дай бог сваволіць пачнуць.

Свежа абцесаныя лаўкі квадратам расстаўляюць па парку.

Капыльскія касцы і кушняры люд сур'ёзны – ім не да танцаў. Калі прыходзяць на панскую сядзібу, то з хітрым намерам: паглядзець на панскіх служанак-прыгажунь. Быццам з іх пісалі візантыйскія іканастасы: падоўжаныя твары і адзенне на марозе свецяцца металам, як кавалкі каляровага лёду.

У памяці Казіміра назаўсёды застануцца вершнікі на заходзячым даляглядзе, касцы і цесляры, сяляне ў срэбры зімовага адзення на захадзе сонца...

Ён маляваў іх на адбеленай хатняй печцы. Маляваў, не звяртаючы ўвагі на крыўдную мянушку «маляра-прыдурка» і кухталі ад бацькі. Хто можа зразумець малюнак белым па беламу? Крэйдай па пабеленай печцы...

Яшчэ больш Казімір любіць маляваць на татарскай агароджы. Па чацвяргах бяліць татарскую агароджу збягалася ўсё капыльскае малалецтва.

Пятніца – святы дзень для татар. Рыхтуючыся да яго, мыюць драўляныя тратуары і беляць бясконцыя агароджы. На гэтых агароджах, у рассеяным сонечным святле бачны белыя і чорныя містычныя сілуэты, намаляваныя Казімірам. Ён умее дадаць у мел сажу, сінюю гліну альбо сок чырвонай кары ляшчыны. Калі бяжыш уздоўж размалёванай агароджы, здаецца, што любы татарын у кушнерскім фартуху – гэта воін у бліскучай кальчузе... Альбо панскі жасцяншчык, які абкруціўся ліставым жалезам і лезе на дах панскага дома...

Праўда, б'юць за «роспіс» татарскіх агародж не шкадуючы. І бацька, і татары. Але злосці на іх у Казіміра ніколі не было.

А калі становіцца немагчыма, можна знайсці і іншую справу для душы. Лоўлю ракаў, напрыклад.

Звараныя чырвоныя ракі, рассыпаныя на белай ільняной кашулі, як макі, складваюцца ў загадкавыя словы і карціны. Ракаў Казімір часцей насіў на сабе, зачапіўшы кляшнямі за пяцелькі кашулі.

Лепшыя ракі заўсёды вадзіліся ў глыбокіх тарфяных ямах, залітых рачной вадой.

***(Заканчэнне на стар. 8)***

**(Заканчэнне. Пачатак на стар. 7)**

Рэзка торфу на капыльскіх балотах – праца цяжкая. Горы чорных кубоў рэжуцца лапатай з перакрыжаванымі нажамі. Для таго, каб цяжкі мокры куб торфу адламаць ад пласту і выцягнуць з ямы, патрэбны асаблівае майстэрства. Робяць гэта бацька з мужыкамі. А Казімір з братамі раскладваюць торф на прасушку.

Складваць у штабель сумна. Іншая справа – пабудаваць з торфу дом-лазню альбо вялізны чайнік.

На першым белым снезе – квадрат тарфяной ямы, заліты чорнай вадой... Ён назаўсёды ў памяці Казіміра.

Патрэбна грошы для ад'езду ў далёкую Маскву. Там ніхто не будзе абзываць яго «маляром». Там ён зможа быць самім сабой.

Грошай трэба шмат. Грошы можна выручыць за крадзеных коней.

Брат Павел – галоўны канакрад і перагаворшчык з цыганамі, якія дадуць за коней добрыя грошы. Яўрэйскі сын Шлёма – разведчык і стратэг. З ім на промысел у Кацельнікі Казімір ідзе без страху.

Толькі з трэцяга разу яны ўвялі з панскай сядзібы лепшых коней і ўзялі за іх добрыя цыганскія грошы.

Хоць грошы крадзеныя, але ў Маскве ва ўсіх такія.

Спатрэбяцца.

## Памяці маёй лабірынты...

Почырк свайго бацькі Аляксандра Паўлавіча я памятаў з дзяцінства. Вучыўся чытаць па яго лістах з вайны і дзённіках, перададзеных пасля яго пагібелі маёй маці. Галоўнай настаўніцай была бабка Ульяна.

Памятаю і тыя некалькі лістоў Казіміра, якія рэдка, але даставаліся з-за абраза ў доме дзеда Паўла. Разам з сямейнымі фотаздымкамі яны праляжалі ўсю вайну закапанымі ў зямлі, выцвілі і пастарэлі, але чыталіся добра. Змест тых лістоў дзецям быў нецікавым, але маленькія малюнкі на палях з нязменнымі вялікімі літарамі «КМ» пад імі я памятаю.

Почырк казіміравых лістоў аднавіўся ў памяці фатаграфічнай аддрукоўкай нашмат пазней. Гэта здарылася на першай міжнароднай выставе прац Казіміра. Менавіта тады я быў узрушаны абсалютным падабенствам почыркаў Казіміра і свайго бацькі Аляксандра.

І першая думка: гэта брат дзеда Паўла, капыльскі маляр Казімір. Гэта наш Казімір.

Геном спадчынных супадзенняў праявіўся з усёй верагоднасцю. За такімі супадзеннямі Усявышні хавае свае абдуманыя намеры і адкрывае іх розным пакаленням па-рознаму ў патрэбны час.

Яшчэ ў школьныя гады вычытаў у польскім часопісе апавяданне пра Казіміра, які як быццам і не ўмеў маляваць, але ўдала прыдумваў новы тэатр, тканіну з малюнкамі, квадратныя чайнікі і супраматычны квадрат, які здзівіў усіх.

Што за чорны квадрат?

Ёсць брат бацькі. Ён журналіст. Павінен нешта ведаць. Маё пытанне – хто такі Казімір? – выклікала ў яго здзіўленне, калі не жах. Адкуль ты даведаўся? Хто сказаў? Чаму пытаешся ў мяне?

Звычайнай сацзвычка часоў пошуку ворагаў. Чалавек нічога не павінен сам разумець. Калі ён ведае больш, значыць, нехта шкодны яго навучыў... Нічога я ад дзядзькі тады не дабіўся.

Але ёсць у мяне і бабка Ульяна. Якая заўсёды гаварыла, што капыльскія па бацькоўскай лініі ўсе ці канакрады, «рэвалюцыянэры», ці прыдуркі-маляры, як брат дзеда Паўла Казімір, які згінуў невядома дзе.

Ён – вядомы Казімір?..

Бабка Ульяна любіла паўтараць капыльскія расказы пра тое, што Казімір быў хоць і не зусім нармальны, па мясцовым разуменні, але выжыў і стаў вельмі багатым «начальнікам усіх мастакоў». Яна гаварыла, што ён, мабыць, у Амерыцы... Многіх капылян, якія выехалі і зніклі, лічылі ў тыя часы эмігрантамі ў Амерыку. А хтосьці гаварыў, што бачыў Казіміра і ў Кіеве, і ў Курску, і Маскве, і ў Пецярбургу...

У месцы свайго дзяцінства Казіміра вяртала ўсяго толькі памяць.

Заўсёды на Манхэттэне вяртаюся ў мінулае Казіміра. Казімір заўсёды прысутнічае ў манхэттэнскай сучаснасці. Пачуццё такое, што гэта не чужое, а сваё мінулае...

Чатыры капыльскія дарогі дзяцінства, што перасякаюцца. Квадрат, што ўтвораны чатырма прыдарожнымі крыжамі. Галоўны крыж – на галоўнай дарозе. На поўначы – крыж Нёманскай дарогі, якая вядзе ў лясы праз яўрэйскія лабазы паўз беленыя мелам платы. Крыж на дарозе, што вядзе ў Нясвіж паўз курганы, на якіх акрамя ядлоўцу нічога не расце. І амаль проста за домам – крыж ля дарогі ў бясконцыя какарыцкія лясы.

Капыльскія дарогі – дыяганалі квадрата дзяцінства Казіміра. Адзін бок таго квадрата кладзецца на задумлівую празбалотную рэчку Мажа, другая – на капыльскія курганы. А далей з усіх бакоў – каляровыя плоскасці палёў грэчкі і пшаніцы, якія зліваюцца з бясконцым небам дзяцінства...

На Манхэттэне без Казіміра немагчыма. Ён заўсёды побач. Як і ў сучаснай фізіцы, фізіцы квантаў святла і тонкіх узаемадзеянняў.

Мастацтва Казіміра прымушала мяне думаць аб сутнасці часу і прывяло да разумення трансфармацыі і сінтэзу часу. Яго мастацтва фарміруе дарогу вышэйшага сэнсу навукі часу і прасторы. Навуку сінтэзу дыскрэтных шкал часу новай размернасці. Размернасці дарогі ў сусвет і адчуванняў наноразмернага свету.

Філасофская думка Казіміра ўсё часцей сустракаецца з ідэямі нелінейнай прасторы і паралельнага часу фізікі. Супрэматызм Казіміра паказаў шмат адкрыццяў у філасофіі сінтэзу часу і асэнсавання прасторы. Механізмы сінтэзу часу і прасторы ў сучаснай навуцы толькі пачынаюць магутна развівацца. Квантавыя трубы і генетычныя кампіляцыі здзіўляюць сваім падабенствам з шэдэўрамі супрэматызму...



*Казімір Малевіч* *Аляксандр Малевіч* *Ігар Малевіч*

**Ад рэдакцыі.** ***Казімір Севярынавіч Малевіч (11(23).02.1878 – 15.05.1935; дакладнае месца нараджэння невядома, ёсць толькі дзве-тры версіі, і ўсе розныя). З 1919 па 1923 гг. – у Віцебску, выкладаў у Народнай мастацкай школе «новага рэвалюцыйнага ўзору». Адзін з заснавальнікаў абстрактнага мастацтва («Чорны квадрат», «Чырвоны квадрат»). У 1923–1927 гг. – рэктар Ленінградскага дзяржаўнага інстытута мастацкай культуры. Аўтар шэрагу кніг, у т.л. «Супрэматызм» (Віцебск, 1920).***

***Пахаваны ў в. Нямчынаўка пад Масквой.***

## Студзень

**18 – Лангбард Іосіф Рыгоравіч** (1882–1951), архітэктар, педагог, адзін з заснавальнікаў савецкай архітэктуры Беларусі, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі – 125 гадоў з дня нараджэння.

**21 – Лушчыцкі Іван Мікалаевіч** (1907, Капыл. р-н – 1973), вучоны ў галіне філасофіі, член-карэспандэнт НАН Беларусі, заслужаны дзеяч навукі Беларусі – 100 гадоў з дня нараджэння.

**24 – Купрэвіч Васіль Феафілавіч** (1897, Смаляв. р-н – 1969), вучоны-батанік, заснавальнік глебавай энзімалогіі, акадэмік НАН Беларусі, заслужаны дзеяч навукі Беларусі, член-карэспандэнт АН СССР, дзяржаўны дзеяч БССР – 110 гадоў з дня нараджэння.

**28 – Мазыр** – 430 гадоў з часу атрымання граматы на магдэбургскае права (1577).

**31 – Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі** (Мінск, 1957) – 50 гадоў з часу заснавання (адкрыты ў 1967).



## МУСУЛЬМАНСКІ КАЛЯНДАР

*(1428 год Хіджры)**

| | |
|---|---|
| **30 снежня 2006 года** (9 зуль-хіджа) | Дзень Арафа – Дзень стаяння на гары Арафа |
| **31 снежня** (10 зуль-хіджа) | Курбан-Байрам – Свята ахвярапрынашэння, заканчэнне вялікага паломніцтва ў Меку (святкаванне 4 дні – 31 снежня 2006 года, 1,2,3 студзеня 2007 года) |
| **20 студзеня** (1 мухарама) | пачатак новага 1428 года па мусульманскаму календару |
| **29 студзеня** (10 мухарама) | Ашура – дзень памінання пракокаў і пасланнікаў Алага |
| **з 30 на 31 сакавіка** (11–12 рабі-аль-аваля) | Маўлід ан-Набі – дзень нараджэння Прарока Мухамада |
| **з 19 на 20 ліпеня** (4–5 раджаба) | дзень шлюбу бацькоў Прарока Мухамада – ноч Рагаіб |
| **з 10 на 11 жніўня** (26–27 раджаба) | ноч Мірадж – узнясенне Прарока Мухамада да Усявышняга Алага |
| **з 27 на 28 жніўня** (14–15 шаабана) | Ляйлят аль-Бараа – Ноч Бараат, ноч ачышчэння ад грахоў |
| **13 верасня** (1 рамадана) | Ураза – пачатак мусульманскага посту |
| **з 8 на 9 кастрычніка** (26–27 рамадана) | Ляйлят аль-Кадр – ноч Прадвызначэння |
| **12 кастрычніка** (1 шаваля) | Ураза-Байрам – Свята, прысвечанае заканчэнню посту (святкаванне 3 дні – 12, 13, 14) |
| **19 снежня** (9 зуль-хіджа) | Дзень стаяння на гары Арафа |
| **20 снежня** (10 зуль-хіджа) | Свята ахвярапрынашэння – Курбан-Байрам – заканчэнне вялікага паломніцтва ў Меку (святкаванне 4 дні – 20, 21, 22, 23) |

*Хіджра – перасяленне Прарока Мухамада і яго блізкіх з Мекі ў Мадзіну са стратай практычна ўсёй маёмасці, але набыццём поўнай свабоды веравызнання

## ЯЎРЭЙСКІ КАЛЯНДАР*

Яўрэйскі 5767 год пачаўся 23 верасня 2006 года (1 цішрэя)

На 2007 год па грыгарыянскім календары прыпадаюць наступныя яўрэйскія святы і памятныя дні:

| | |
|---|---|
| **3 лютага** | Ту БіШват – Новы год дрэў. Свята Зямлі Ізраіля і Яе пладоў |
| **1 сакавіка** | пост Эстэр |
| **4 сакавіка** | Пурым – свята ў памяць аб выратаванні яўрэяў ад знішчэння ў часы панавання Персіі |
| **3–10 красавіка** | Песах – свята зыходу з егіпецкага рабства |
| **16 красавіка** | Дзень Халакосту |
| **24 красавіка** | Дзень Незалежнасці Ізраіля |
| **6 мая** | Лаг-ба-Омер – згадваецца спыненне страшнай эпідэміі, якая забрала жыцці 20 тысяч вучняў рабі Аківы – настаўнікаў пакалення. Свята радасці і духоўнага росту |
| **23–24 мая** | Шавуот – свята падаравання Торы |
| **24 ліпеня** | пост Ціша-бі-Ав |
| **13–14 верасня** | Рош-А-Шана – Новы 5768 год |
| **16 верасня** | пост Гедаліі |
| **22 верасня** | пост Йом Кіпур – Судны дзень |
| **27 верасня** | 4 кастрычніка – Сукот |
| **5 кастрычніка** | Сімхат Тора – свята, прысвечанае заканчэнню гадавога цыкла чытання Торы |

**25 снежня – 3 студзеня 2008 года –** Ханука – свята цяпла і цуда выратавання яўрэйскага народа ад духоўнага знішчэння

*Усе святы пачынаюцца з вечара папярэдняга дня з захадам сонцам і заканчваюцца ўвечары. У пералік не ўключана свята Шабат (субота). Існуе розніца паміж некаторымі датамі святкавання ў Зямлі Ізраіля і ў краінах рассеяння.

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 2019 ад 19. 03. 2003 г.
Заснавальнікі: грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры», вытворчае прыватнае унітарнае прадпрыемства «Светач», Гілеп Уладзімір Аляксандравіч.

Краязнаўчая газета

Індэкс індывідуальнай падпіскі – 63320
ведамаснай – 633202

Галоўны рэдактар – Уладзімір ГІЛЕП
Нам. галоўнага рэдактара Генрых ДАЛІДОВІЧ.
Адказны сакратар Уладзімір Пучынскі.
Рэдкалегія: Анатоль Бутэвіч, Андрэй Вірчак, Анатоль Грыцкевіч, Алесь Карлюкевіч, Лідзія Кулажанка, Адам Мальдзіс, Вячаслаў Рагойша, Віталь Скалабан, Віктар Хурсік.

Наш адрас: 220029, г. Мінск, вул. Камунальная набярэжная, 6.
Тэл. 283 28 26, 234 61 62.
E-mail: kraga@tut.by

З-за абмежаванасці сродкаў выданне безганарарнае.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Аўтары дапісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, імя і імя па бацьку, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Меркаванні аўтараў могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Падпісана да друку: 18.01.2007.
Газета надрукавана ў друкарні УП «Плутас-Маркет»: г. Мінск, вул. Кульман, 1. (Ліцэнзія ЛП № 02330/0131676 ад 30 красавіка 2004 г.)
Заказ 44
Тыраж 1450 асобнікаў.